© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 22 ліпеня 1988 г. № 30 (3440) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

ЛЮДЗІ РОДНАГА КРАЮ

Знатны хлебароб Бярэзінскага раёна Аляксандр ШВЕД. Шмат гадоў ён працуе ў калгасе «Запаветы Леніна», адзначаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга і «Знак Пашаны».

Фота А. КЛЕШЧУКА.

## У НУМАРЫ:



© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

# Удзельнікам і гасцям
# Усесаюзнага фестывалю польскай песні

Сардэчна вітаю ўдзельнікаў і гасцей Усесаюзнага фестывалю польскай песні ў Віцебску.

Ваша свята — праяўленне духоўнай блізкасці савецкага і польскага народаў, велізарнай цікавасці адзін да аднаго, у чым я яшчэ раз пераканаўся ў час нядаўняй паездкі ў ПНР. Сёння, калі мы прымнажаем свае намаганні ў справе абнаўлення сацыялізму, карэннай перабудовы ўсіх сфер грамадскага жыцця, мастацтва атрымлівае новы прастор і можа больш рабіць для ўмацавання брацкага супрацоўніцтва паміж нашымі народамі.

Песня — адзін з самых папулярных, любімых жанраў. Яна дапамагае людзям лягчэй знаходзіць шлях да сэрца друга, зразумець і палюбіць яго. Нязменны поспех фестываляў савецкай песні ў Зялёнай Гуры гаворыць пра гэта вельмі пераканаўча.

Жадаю вам вялікіх творчых удач, яркіх уражанняў і памятных сустрэч на гасціннай беларускай зямлі.

**М. ГАРБАЧОЎ.**



У фестывальным амфітэатры—штодня аншлаг. Фота У. МЯЖЭВІЧА.

# Пёсэнка польска—у Віцебску

**20 ліпеня адбылося ўрачыстае адкрыццё фестывалю**

...Канцэрт майстроў мастацтваў ПНР і СССР зацягнуўся далёка за поўнач і злучыў двое сутак. Што і казаць, нязвыкла для ціхага Віцебска, які пачаў быў мірыцца з рэпутацыяй інтымна-камернага і трохі «акадэмічнага» горада, што жыве сваімі маленькімі радасцямі, а калі і называецца значным цэнтрам культуры і мастацтва, дык пераважна ў сувязі з даўно мінулым часам. Рэдка здзіўляў ён у апошняе дзесяцігоддзе яркімі падзеямі культурнага жыцця, а такой, як сёння, наўрад ці адшукаеш ва ўсёй папярэдняй гісторыі.




Зрэшты, фестываль для віцябчан пачаўся раней свайго афіцыйнага адкрыцця. Напярэдадні амфітэатр пад адкрытым небам першымі запоўнілі будаўнікі, і майстры савецкай і польскай эстрады як знак удзячнасці далі для іх вялікі канцэрт. Тым часам прайшло першую праверку унікальнае збудаванне, якое не мае аналагаў у краіне (а некаторыя сцвярджаюць, што і ў Еўропе), якім аднадушна, без ценю кампліментарнасці захапляюцца ўсе нашы госці.

Калі ж быць яшчэ больш дакладным, дык сённяшнім фестывалем мы жывём ужо год. З таго дня, як летась пры закрыцці традыцыйнага свята савецкай песні ў Зялёнай Гуры, пабраціме Віцебска, Ігар Лучанок прыняў ад зялёнагурцаў шкатулку з нотамі — дар віцябчанам, усім аматарам польскай песні ў нашай краіне. Вось з таго дня мы і набліжалі сённяшняе свята.

У студзені пачалася будоўля, размах якой, мабыць, уяўлялі нямногія. Ён вырас літаральна на вачах — амфітэатр у Заручаўі. Адначасова на яго трыбунах можа размясціцца 5400 гледачоў, хоць выглядае вельмі зграбна і ўтульна. Эстрадная пляцоўка і тэхнічныя памяшканні начынены самай сучаснай светлавой і гукавой тэхнікай. Электрычная энергія, якая жывіць гэты комплекс, здольная была б прывесці ў рух сярэдняе па магутнасці прадпрыемства. І ўсё гэта вырасла за няпоўныя шэсць месяцаў, у рэкордны тэрмін.

Падрыхтоўка віцябчан да фестывалю — не толькі гэтая будоўля, а яшчэ і шматлікія аб'екты добраўпарадкавання. Вось колькі лічбаў... За перадфестывальныя месяцы на вуліцах і плошчах горада ўкладзена столькі асфальту, колькі за пяць папярэдніх гадоў. Толькі на «амаладжэнне» фасадаў і дахаў пайшло каля 340 тон высакаякаснай імпартнай фарбы. Можа, як і кожнаму, нават стараннаму студэнту, нам «аднаго дня не хапіла». Можа, горад выглядае, нібы чалавек у толькі што купленым і бездакорна адпрасаваным гарнітуры. Можа, сям-там прыдзірлівае вока заўважыць штрыхі павярхоўнай касметыкі... Ды ўсё гэта не шкодзіць вірлівай, прыўзнятай атмасферы свята.

Што да фестывалю непасрэдна, дык канцэрт пры яго адкрыцці трансліраваўся па ўсесаюзным тэлебачанні. Але за кадрам пакуль што застаецца яго галоўная частка і найважнейшы сэнс — конкурс польскай песні. Для ўдзелу ў ім прыехала 35 салістаў і ансамбляў. Гэта пераможцы занальных творчых спаборніцтваў, якія праходзілі ў васьмі гарадах краіны. У суботу будуць названы лаўрэаты і ўладальнікі прызоў. Іх вызначыць аўтарытэтнае журы пад старшынствам народнага артыста СССР І. Лучанка.

У канцэртах на віцебскай эстрадзе выступіць цэлае сузор'е майстроў, у тым ліку польскія артысты З. Вадзецкі, М. Радовіч, Х. Францковяк, нашы «Песняры», «Верасы», Э. П'еха, У. Мігуля і іншыя выканаўцы. У рамках фестывалю прадугледжаны шматлікія выстаўкі, сустрэчы ўдзельнікаў і ганаровых гасцей з працоўнымі Віцебска.

У цяжкім становішчы дырэкцыя фестывалю. Жадаючых трапіць на канцэрты — і конкурсныя, і «камерцыйныя», з удзелам «зорак» эстрады — аказалася ў восем разоў больш, чым можа размясціць амфітэатр. І таму аргкамітэт вырашыў правесці замест васьмі запланаваных аж 22 канцэрты, хоць і ў такім разе, трэба думаць, незадаволеных будзе шмат.

...Віцебск сёння не пазнаць. Падрыхтоўка да фестывалю прыўзняла яго над будзённасцю. І калі вы не былі тут хоць месяц, — не пазнаеце. Горад на Дзвіне, які з гэтага робіцца сталіцай польскай песні ў Савецкім Саюзе, набывае новыя, прывабныя рысы.

**У. ГАНЧАРОЎ.**
Віцебск, па тэлефоне.

●

**На цырымоніі ўрачыстага адкрыцця фестывалю выступіў першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Я. Я. САКАЛОЎ.**

**На цырымоніі адкрыцця прысутнічалі Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Г. С. ТАРАЗЕВІЧ, сакратары ЦК КП Беларусі М. С. ІГРУНОЎ і М. І. ДЗЕМЯНЦЕЙ, намеснік загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ С. В. РЭНЧЫС, іншыя савецкія, а таксама польскія афіцыйныя асобы.**

**Закончыўся першы этап работы ўрадавай камісіі па расследаванні фактаў, выкладзеных у лімаўскім артыкуле «Курапаты—дарога смерці» (3 чэрвеня 1988 г.) — эксгумацыя астанкаў, знойдзеных у брацкіх магілах у Курапацкім лесе пад Мінскам.**

**Прапануем увазе чытача нататкі нашага карэспандэнта з месца раскопак. Змяшчаем таксама два лісты з лімаўскай пошты, аўтары якіх, геолаг В. Шыдлоўскі і журналіст К. Тычына, дзеляцца думкамі, разважаюць, успамінаюць...**

У ПАЭТА Уладзіміра Салаухіна ёсць верш, у якім апавядаецца пра перажыванні аўтара, калі ён убачыў, як пад ботам прахожага загінула страказа. Імгненне, і страказіны мозг, над якім прырода чаравала мо мільёны гадоў, на вачах узрушанага паэтаператварыўся ў нішто...

Не ведаю, чаму тут, у Курапацкім лесе, ля раскапанай магілы, мне ўспомніўся той салаухінскі верш. Непазнаная прырода асацыяцый? Відаць, мой уласны мозг выцягнуў з глыбінь памяці і зафіксаваў неймаверны кантраст паміж тым, што некалі ўсхвалявала вядомага паэта, і тым жахлівым, што абрынулася на мяне тут, у поўным птушыных спеваў ліпеньскім лесе.

...Ведаеце, я цяпер дакладна ўяўляю, пра які колер гавораць — зямлісты. Гэта колер чарапоў. Вунь яны ляжаць непадалёк ад магільнага насыпу нечакана маленькія, нібы несапраўдныя, быццам ніколі не належалі жывой істоце.

Не, ёсць, праўда, на чарапах адзнака, якая і зараз сведчыць аб іх прыналежнасці да вялікага і жорсткага свету, дзе яны былі людзьмі — жылі, марылі, любілі, спадзяваліся на лепшае. Адзнака гэтая — кулявыя адтуліны. Не трэба мець вялікую фантазію, каб уявіць, як усё тут адбывалася. Член урадавай камісіі, рабочы Мінскага вытворчага аб'яднання імя У. І. Леніна Дзмітрый Іванавіч Чарвякоў расказаў мне, што некалькі дзён назад сюды, на месца раскопак, прыйшла старая жанчына з суседняй вёскі Забалоцце і пачала ўспамінаць, што перад самай вайной гэтыя мясціны людзі імкнуліся абыходзіць, бо тут часта чуліся стрэлы, поўныя перадсмяротнага жаху крыкі людзей. Аднойчы двое цікаўных падлеткаў з іх вёскі прабраліся сюды і, убачыўшы трупы, пабеглі званіць у міліцыю. Міліцыя неўзабаве прыехала, і хлопцаў забралі, як быццам для допыту. Аж дагэтуль...

Ля адкрытай магілы ляжаць і купкі ўзятых адтуль чорных костак, на самым брустверы кідаецца ў вочы куча, здаецца, згубіўшых сваё ранейшае прызначэнне, ануч. Але калі падыходзіш бліжэй, са здзіўленнем, змешаным з жахам, пачынаеш адрозніваць асобныя «дэталі» гэтай кучы — сатлелыя кашулі, штаны, рэшткі абутку: ботаў, чаравікаў, галёш. Дарэчы, галёшы захаваліся лепш за іншы абутак, усё ж такі—гума! На некаторых з іх можна нават прачытаць фабрычныя клеймы.

РАЗАМ з тысячамі людзей у лясным масіве «Курапаты» 19 чэрвеня на мітынгу памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій быў і я. Адразу хачу сказаць, што не належу да «нефармалаў», як і пераважная большасць удзельнікаў мітынгу, і з аб'яднаннем «Талака» сустрэўся ўпершыню. Адна з прамоўцаў (здаецца, з інстытута фізкультуры) адзначала высокую арганізацыю мітынгу, за што выказала падзяку «Талацэ». Параіла «фармалам», калі можна так сказаць, браць з «нефармалаў» прыклад. Цалкам з ёй згодзен і далучаюся да яе ацэнак.

Мітынг працягваўся 4 гадзіны. Гаварылі з імправізаванай трыбуны многія: маладыя і старыя, у тым ліку і ахвяры рэпрэсій часоў культу Сталіна. Для многіх, хто жадаў выступіць, на жаль, не хапіла часу, у тым ліку і для мяне. Але лічу, што тут ніякай прадузятасці з боку арганізатараў не было ні да мяне, ні да іншых, і я асабіста ні на кога за гэта не крыўдую.

Супярэчлівасць пэўных выступленняў выклікала іншы раз заўвагі, рэплікі ўдзельнікаў. Усё гэта натуральна, асабліва на мітынгу. Эмоцыі без прычыны не ўзнікаюць. Але ніхто, што называецца, не выходзіў за межы.

Нам паказвалі ў дзесятках фільмаў, у п'есах, як праходзілі мітынгі ў час рэвалюцыі і пасля яе. Яны былі сапраўды бурнымі. Пра гэта можна прачытаць і ў літаратурных творах пра рэвалюцыю і станаўленне Савецкай улады. А тое, што адбываецца ў наш час, ёсць працяг рэвалюцыі.

Я асабіста памятаю тыя мітынгі, што «праграмаваліся» ў падтрымку выкрыцця ў трыццатыя гады так званых «ворагаў народа». Тады зласлівыя, раз'юшаныя прамоўцы размахвалі кулакамі перад маўклівым натоўпам, патрабуючы смяротнай кары для ні ў чым не вінаватых людзей.

Я ўжо немалады чалавек і добра ведаю наша мінулае. Яно праходзіла перад маімі вачамі. Я з таго пакалення, якое ў канцы дваццатых гадоў, у трыццатыя, саракавыя і ў пачатку пяцідзесятых «пастаўляла» катаў і ахвяр. Такім «па-

# Мова песні— інтэрнацыянальная

У Беларусі пабываў канцэртны хор «Адысеі міру» са Злучаных Штатаў Амерыкі. Спевакі-аматары далі ў Палацы культуры Белсаўпрофа канцэрт, збор ад якога перададзены на рахунак Савецкага фонду міру. На працягу амаль дзвюх гадзін гучалі амерыканскія і негрыцянскія народныя песні, музыка амерыканскіх кампазітараў, а таксама творы М. Мусаргскага, С. Рахманінава, што выконваліся па-руску.

Пасля афіцыйнай часткі канцэрт атрымаў сваё прадаўжэнне ў фае палаца. Амерыканскія, беларускія песні, вядомыя «Падмаскоўныя вечары» і «Кацюшу» на гэты раз спявалі разам госці і гледачы.

**Г. ПЯТРЭНКА.**

# Гастролі завяршыліся

20 ліпеня ў Вільнюсе спектаклем па п'есе А. Дударава «Радавыя» завяршыў свае гастролі Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. На закрыцці гастроляў прысутнічаў і выступіў міністр культуры Літвы І. Бялініс. Ён уручыў калектыву Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета Літоўскай ССР, якой купалаўцы ўзнагароджаны за паспяховае правядзенне гастроляў.

**В. ПЯТРОЎ.**



© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

# ПОПЕЛ СТУКАЕ Ў СЭРЦА...

Па пэўных прыкметах адзення і абутку прысутныя тут эксперты мяркуюць, што ў гэтай магіле ляжаць расстраляныя сяляне з былых заходніх абласцей Беларусі.

Д. І. Чарвякоў, а ён тут з першых дзён раскопак і нагледзеўся, па яго словах, розных жахаў, заўважае, што па астанках можна прыблізна меркаваць аб сацыяльных катэгорыях расстраляных. У адной з ям, напрыклад, знойдзены рэшткі скураных куртак, хромавых ботаў, зубныя шчоткі, мыльніцы... Каму яны належалі? Партыйным, савецкім работнікам? У яме знайшлі нават нейкае падабенства бутэрброда.

«Бутэрброда?» — перапытваю я з недаверам. «Так, няйначай бутэрброда, — адказвае Дзмітрый Іванавіч.—Эксперты прыйшлі да высновы, што гэта спрасаваны кавалак хлеба з нечым у сярэдзіне, нагадвае бутэрброд, як мы цяпер кажам».

Арыштаваныя не ведалі, што іх чакала? Жыва ўявіў, як у апошні момант, калі ўжо выводзілі з дому, чалавек узяў з дрыжачых жончыных рук кавалак хлеба, пачуўшы: «Бяры, пакуль яшчэ вам там дадуць паесці»...

У адной з ям большасць чарапоў — жаночыя. «Для канчатковых высноў трэба зрабіць падрабязную экспертызу, — гаворыць эксперт Інстытута судовай экспертызы, старшы навуковы супрацоўнік У. Раманаў, — але па папярэдніх візуальных назіраннях, гэта, здаецца, жаночыя чарапы...»

Прыгадалася апавяданне пісьменніка В. Ганчарова «Хлеб наш надзённы» ў «Литературной России»—пра чалавека-супрацоўніка НКУС, які здзяйсняў смяротныя прысуды «ворагам народа». Пра ката, для якога яго занятак стаў прафесіяй, заняткам, які добра аплачваўся. Хачу і не магу нават зрокава ўявіць тых, хто расстрэльваў людзей тут, у Курапацкім лесе. Як сведчаць кулявыя адтуліны ў чарапах, палажэнне астанкаў у ямах, расстрэльвалі часцей не групамі зара́з, а па адным. Стрэліць кат ва ўпор у галаву, піхне нагой у яму і чакае, пакуль не прывядуць з машыны наступную ахвяру. Стралялі з ручной зброі. Пры мне ў пяску ля магілы знайшлі дзве гільзы ад нагана. Канчатковыя вынікі экспертызы наперадзе, але ніхто з экспертаў, што прысутнічаюць тут пры раскопках, не аспрэчвае таго факта, што расстрэлы вяліся з айчыннай зброі...





. Курапаты, ліпень 88-га...



Фота Г. КАРАЛЕНКА.

Раскапана дзевяць ці дзесяць магіл. У кожнай астанкі многіх дзесяткаў людзей. Але магіл тут куды больш. Зянон Пазняк, адзін з аўтараў ліма́ўскага артыкула, чалавек неспакойны, няўрымслівы, — ён тут, на раскопках, літаральна днюе і начуе, дапамагаючы ўрадавай камісіі, сказаў мне, што магіл, у якіх ляжаць расстраляныя, тут больш як пяцьсот.

Паказвае рукой наўкол сябе. Бачу западзіны — адна ля адной, і амаль з кожнай уздымаецца стромая сасна. Дрэвы ўвабралі ў сябе чалавечы прах, нібы дэманструючы вечнасць матэрыі...

Першы намеснік старшыні ўрадавай камісіі Пракурор БССР Г. С. Тарнаўскі сказаў па тэлефоне аўтару гэтых радкоў: «Цяпер слова за экспертызай».

Тут я пакуль што стаўлю кропку.

**Міхась ЗАМСКІ.**

---

стаўшчыком» было і тое пакаленне, якое папярэднічала нашаму. Некаторыя лічаць, што арыфметычныя суадносіны катаў і ахвяр у тыя гады вызначаліся як адзін на аднаго. Згодна гэтаму сцвярджэнню, кожны першы расстрэльваў кожнага другога. Недарэчнасць відавочная. На самай справе ахвяр было непамерна, непараўнальна больш, чым катаў. У апошніх, што абслугоўвалі канвеер смерці, была неабмежаваная ўлада, у першых — не было ніякага ратунку ад катаў. Вынік гэтага — шматлікія «Курапаты» па ўсёй краіне. Ад вока людскога ўсе гэтыя злачынствы схаваць было нельга. Дасведчанасць у тым, што тады тварылася, ідзе зусім па іншай лініі: ад дзядоў — да бацькоў, ад бацькоў — да сыноў, а праз пакаленні — у гісторыю.

Адкуль жа рэкрутаваліся каты? Сталінам быў выпеставаны камісарыят унутраных спраў, які быў надзелены бязмежнай уладай. За сабой Сталін пакінуў толькі дырыжорскі пульт. У змрочных нетрах гэтага камісарыяту і «выспявалі» каты з ліку садыстаў, вылюдкаў. Яны засталіся аддадзенымі сабе да сённяшняга дня. Адзін з майго пакалення, які стаяў у Курапатах зводдаль ад дэманстрантаў (не хацеў, відаць, «змешвацца» з натоўпам), зірнуўшы на мае сівыя валасы, калі я праходзіў міма, буркнуў у бяссільнай злосці: «Танкі б сюды!» Відаць, ён разлічваў знайсці ўва мне «аднадумца па пакаленні». Пасля Вялікай Айчыннай вайны яны набылі статус удзельнікаў, ветэранаў, так сказаць, «абязлічыліся». І нават прэтэндуюць на піянерскія кветачкі. Толькі пасля адкрыцця архіваў стане вядома, хто ёсць хто, дакладней, хто кім быў.

Сведак тых часоў, што пацярпелі ад культу, уцалела мала, бо тыя пакаленні былі спусташальна «прарэджаны» як Гітлерам, так і Сталіным. Рэшткі зараз паміраюць сваёй смерцю. Неўзабаве не застанецца ніводнага. А пакуль што яны чакаюць сваіх летапісцаў. Створаны кнігі «Я з вогненнай вёскі», «Блакадная кніга», «У вайны не жаночы твар», але няма пакуль кніг-дакументаў пра злачынствы часоў культу Сталіна. А такія кнігі — ох як патрэбны народу і гісторыі.

**В. ШЫДЛОЎСКІ,**
**геолаг.**

г. Мінск.

КУРАПАТЫ — незагойная рана ў сэрцах мільёнаў, дакор і папярэджанне жывым. Пільнасць і згуртаванасць — найпершы ўрок Курапатаў для жывых.

Такія Курапаты былі не толькі ў ваколіцах Мінска. Пра многія людзі, асабліва маладыя, яшчэ не ведаюць. А яны ёсць, бо як жа ім не быць, калі (пачытайце часопісы ды газеты) падлічана, што «шпіёнаў» ды «ворагаў народа» перад вайной у нас было куды больш, чым салдат у Чырвонай Арміі. «Звышпільныя» падручныя Берыі, Яжова, Бермана, Цанавы ды іншыя ўгодлівыя слугі Іосіфа Крывавага знаходзілі адразу іх дзесяткамі нават у глухіх вёсках, куды не даходзіў і паравозны гудок, не тое што замежная разведка. Цяпер мы ведаем, што іх адпраўлялі «не в столь отдаленные места», адкуль надзеі на зварот ужо не заставалася.

Некалькі гадоў назад я быў у Мазыры, там пачуў пра лагер смерці сярод балот, на процілеглым беразе Прыпяці. На асушаным тарфяніку будавалі кормапрадпрыемства «Прыпяць» і спатрэбіўся пясок і жвір. Непадалёк была вялікая пясчаная выспа. Прыгналі экскаватар, самазвалы. Зачарпнулі каўшом раз-другі, і адкрыліся груды чалавечых касцей. Пясок не даў струхлець вопратцы, такой самай, што насілі тады тутэйшыя палешукі. Механізатары адмовіліся браць пясок...

Мясцовыя жыхары гаварылі, што перад вайной на выспе была асаблівай сакрэтнасці зона НКУС, яна была абнесена калючым дротам. Адтуль начамі даносіліся стрэлы і енкі. Тады ўсюды шукалі ворагаў народа, хапалі нявінных людзей, ды, мабыць, на гэту выспу і вывозілі. Казалі землякі Івана Мележа, што пасля смерці Сталіна пасыпаліся ў іх вёску пісьмы на рэабілітаваных, «як лісце пасля замаразкаў». Толькі ў родную вёску пісьменніка прыйшло такіх лістоў больш як дзевяноста...

Несумненна, ахвярам рэпрэсій трэба паставіць помнікі, а на месцах масавага знішчэння — мемарыялы. Пацярпеўшым і іх сем'ям дзяржава павінна аказаць хоць бы маральную падтрымку. Трэба выявіць усіх закатаваных у час сталінскіх рэпрэсій і лічбы ахвяр абнародаваць.

І яшчэ. Ахвяры ёсць, а катаў... няма. Мы ведаем імёны тых, хто нават у далёкіх краінах знішчаў людзей, а тых, хто расстрэльваў ленінцаў, патрыётаў, пісьменнікаў, вучоных, нявінных грамадзян, — пра іх, забойцаў, у нас маўчок. Быццам іх і не было.

А яны, гэтыя каты, яшчэ ходзяць сярод нас, некаторым, што грахі таіць, плацяць персанальныя пенсіі, штогод даюць бясплатныя пуцёўкі ў санаторыі, сродкі на якія зарабляюць нашчадкі імі расстраляных. Чаму ў нас кароткая памяць? Чаму нават цяпер, калі настаў час галоснасці, мы баімся назваць тых, хто катаваў у турмах і знішчаў невінаватых савецкіх людзей?

**К. ТЫЧЫНА,**
**журналіст.**

г. Мінск.

---

# Голас у абарону міру

Творчасць мастачкі з Заходняй Германіі Монікі Зівекінг добра вядома не толькі на яе радзіме, але і за межамі. Лепшыя творы жывапісу і графікі М. Зівекінг, дэманстраваліся на выстаўках у Аўстрыі, Італіі, Балгарыі, Францыі, Савецкім Саюзе і іншых краінах. Мастачка па запрашэнню Саюза мастакоў СССР наведала нашу краіну ў 1982 годзе, пабывала і ў Беларусі. Вынікам гэтай паездкі стала выстаўка «Як ты думаеш, ці хочуць рускія вайны?»

Асобныя работы з гэтай экспазіцыі М. Зівекінг мінчане і госці сталіцы рэспублікі могуць убачыць на выстаўцы нямецкай мастачкі, што працуе ў Палацы мастацтваў. «Мабілізацыя», «Дарогу нашым дзецям», «Зорная смерць», «Мой Берлін», «Вогненная вядзьмарка» — гэтыя і іншыя творы сведчаць аб яркім, публіцыстычным таленце М. Зівекінг.

**НАШ КАР.**

● **З АПОШНЯЙ ПОШТЫ**

# Звярнуліся ў пракуратуру...

**Як вядома грамадскасці, адпаведна з праектам другой лініі Мінскага метрапалітэна яе значны ўчастак мяркуецца пракласці на тэрыторыі гістарычнага цэнтра горада, што можа прывесці да разбурэння ці пашкоджання помнікаў гісторыі і культуры, якія ахоўваюцца дзяржавай. Тым не менш, праектная дакументацыя на будаўніцтва другой лініі метро ў межах Верхняга горада ва ўстаноўленым парадку не ўзгоднена з дзяржаўнымі органамі аховы помнікаў СССР і БССР, а таксама з Беларускім добраахвотным таварыствам аховы помнікаў гісторыі і культуры.**

**Падобныя дзеянні з'яўляюцца грубым парушэннем Законаў СССР і БССР аб ахове і выкарыстанні помнікаў.**

**Горад Мінск уключаны ў спіс гістарычных гарадоў і іншых населеных пунктаў СССР, праекты планіроўкі, забудовы і рэканструкцыі якіх падлягаюць узгадненню з Міністэрствам культуры СССР. Гістарычны цэнтр Мінска прыняты пад ахову дзяржавы як помнік горадабудаўніцтва і архітэктуры рэспубліканскага значэння адпаведнай пастановай Савета Міністраў БССР і ўключаны ў праект дзяржаўнага спісу помнікаў гісторыі і культуры агульнасаюзнага значэння. Неабходна адзначыць, што яшчэ ў 1972 г. Мінск быў уключаны ў спіс гарадскіх пасяленняў БССР, якія маюць каштоўныя горадабудаўнічыя ансамблі і комплексы, прыродныя ландшафты і старажытны культурны пласт, праекты планіроўкі і забудовы павінны ўзгадняцца з органамі аховы помнікаў (зацверджаны пастановай Дзяржбуда БССР і калегіі Міністэрства культуры БССР). Ахоўная зона Верхняга горада зацверджана рашэннем Мінгарвыканкома.**

**Улічваючы гэта, а таксама ў сувязі з запытам Міністэрства культуры СССР, Мінкультуры БССР яшчэ ў лютым прапанавала інстытуту «Мінскметрапраект» і Дырэкцыі метрапалітэна накіраваць на ўзгадненне неабходныя матэрыялы. Паўторна ў пачатку чэрвеня Міністэрства культуры БССР прапанавала Дырэкцыі метрапалітэна прадставіць на ўзгадненне наступныя матэрыялы:**

**—абгрунтаванне трасіроўкі і размяшчэння станцый другой лініі Мінскага метрапалітэна;**

**— планы і профіль участка трасы другой лініі метро на ўчастку ад плошчы Юбілейнай да ракі Свіслач;**

**— мерапрыемствы па забеспячэнні захаванасці помнікаў архітэктуры і іншых гістарычных аб'ектаў, размешчаных у непасрэднай блізкасці ад трасы ў межах гістарычнага цэнтра горада;**

**— дадзеныя пра разлікі шуму і вібрацыі ў гэтых аб'ектах у перыяд эксплуатацыі другой лініі метрапалітэна і пералік прадугледжаных мерапрыемстваў па зніжэнні гэтых паказчыкаў.**

**У гэтым жа пісьме было ўказана на недапушчальнасць прадаўжэння будаўніцтва станцый і праходкі перагонных тунеляў да ўзгаднення ў Міністэрстве культуры СССР запатрабаваных матэрыялаў, аднак неабходнай дакументацыі для разгляду на навукова-метадычным савеце Міністэрства культуры СССР не прадстаўлена дагэтуль. Больш за тое, у сярэдзіне чэрвеня ўзноўлена праходка другой лініі метрапалітэна, што прывяло да значнага пашкоджання помніка архітэктуры рэспубліканскага значэння — будынка манастыра базіліянаў (цяпер дом аблсаўпрофа, рог вул. Інтэрнацыянальнай і пл. Свабоды, 19/23) і шэрагу іншых негатыўных вынікаў.**

**Нават пасля выдачы Дырэкцыі Мінскага метрапалітэна прадпісання Дзяржінспекцыі па ахове помнікаў гісторыі і культуры Мінкультуры БССР аб спыненні работ па будаўніцтве лініі метрапалітэна на ўчастку ад вуліцы М. Горкага да станцыі Я. Купалы, работы на тэрыторыі Верхняга горада вядуцца фарсіраванымі тэмпамі.**

**Улічваючы сітуацыю, якая ўтварылася, і кіруючыся артыкуламі 24 і 25 Закона СССР і артыкуламі 35 і 37 Закона БССР аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры, архітэктурная секцыя Мінскага гарадскога савета таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры 5 ліпеня звярнулася ў Мінскую транспартную пракуратуру з пісьмом, у якім указваецца на неабходнасць тэрмінова спыніць усе работы па будаўніцтве другой лініі метрапалітэна ў Мінску на тэрыторыі Верхняга горада — да разгляду і ўзгаднення праектна-каштарыснай дакументацыі ў Міністэрстве культуры СССР.**

**АРХІТЭКТУРНАЯ СЕКЦЫЯ МІНСКАГА ГАРАДСКОГА САВЕТА ТАВАРЫСТВА АХОВЫ ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ.**



© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

най. Гэта было даўно. А сёння ў раёне з 26 сярэдніх школ толькі 7 з беларускай мовай навучання, з 17 васьмігодак— 8 працуюць на роднай мове, з 9 пачатковых — 5 рускамоўных. У Кобрыне ўсе 7 сярэдніх школ — рускія».

Вельмі ўсхваляванае пісьмо даслала хатняя гаспадыня з Гродна Аліна Іванаўна **Крачкоўская.** Яна піша: «Апошнім часам на старонках друку вядуцца дыскусіі па праблемах мовы, яе стану ў Беларусі. Гэтае пытанне вельмі глыбока хвалюе наш народ. Але карысных прапаноў выказваецца мала. Вядома ж, трэба, каб беларуская мова вывучалася ў дзіцячых садах і школах, інстытутах і тэхнікумах, але ніхто чамусьці не пачаў гаворкі з сябе: «Што я зрабіў для таго, каб не згасла матчына мова?» Ніякія сады і школы не дапамогуць, калі мы не будзем вучыць сваіх дзяцей самі. Чытайце сваім дзецям беларускія кніжкі! Не шукайце В. Быкава, І. Мележа, У. Караткевіча ў перакладах, чытайце ў арыгіналах! Адкрывайце і для сябе асалоду гучання забытага і занядбанага роднага слова!». І далей А. Крачкоўская піша: «Каб мае заклікі не былі пустаслоўнымі, раскажу трошкі пра сябе, пра сваю сям'ю. Скончыла я палітэхнікум, але давялося — па волі лёсу, па прычыне таго, што маю траіх дзетак — працаваць на розных пасадах і не па спецыяльнасці. Не адразу да мяне прыйшло ўсведамленне сваёй беларускасці. Справа ў тым, што маці мая — беларуска, бацька — рускі, і сама я па пашпарце — руская. Але нарадзілася на Вілейшчыне, амаль усё жыццё пражыла на Беларусі, дзяцінства прайшло сярод матчынай радні, у душы лічу сябе беларускай і, няхай не крыўдуе бацька, роднай мовай лічу беларускую. Паважаю і люблю рускі народ, рускую культуру і літаратуру. Шосты і сёмы класы скончыла ў Сібіры, восьмы — пад Разанню. Вучыла там рускіх дзяцей беларускім народным песням, бачыла, як яны падабаюцца ім, як шчыра яны спявалі іх разам са мной. Сваім дзецям парашылі з мужам даць беларускае выхаванне. Было нялёгка. Дачка Валя скончыла чатыры класы, піша вершы на роднай мове, лёгка пераходзіць з беларускай на рускую. Тое ж самае і сын Пеця, які скончыў тры класы. Падрастае Кастусёк — яму пяць гадоў, думаю, што і з ім не будзе бяды, а калі пашчасціць ды адкрыюцца к таму часу беларускія школы, дык і зусім будзе добра».

Канкрэтнымі думкамі і прапановамі вылучаецца ліст загадчыка кафедры гісторыі КПСС і навуковага камунізму Мазырскага педінстытута імя Н. К. Крупскай, кандыдата гістарычных навук, дацэнта Сяргея **Касцяна.** Падтрымаўшы прапанову рэктара Гомельскага універсітэта тав. Бокуця, выказаную ім на старонках «Гомельскай праўды», аб неадкладным увядзенні вывучэння беларускай мовы ва ўсіх ВНУ і тэхнікумах без выключэння, а ў наступным увесці ва ўсіх школах, вучылішчах, тэхнікумах і ВНУ і выкладанне на беларускай мове, С. Касцян піша: «У нашым інстытуце ўжо ў мінулым навучальным годзе выкладаў на беларускай мове гісторыю КПСС старшы выкладчык Андрэй Анатольевіч Каракін, з новага навучальнага года будзе выкладаць па-беларуску філасофію кандыдат філасофскіх навук, дацэнт Юрый Мікалаевіч Кірылаў, навуковы камунізм — аўтар гэтага ліста. Робім мы гэта і па заклiку душы, і па просьбе студэнтаў. Спадзяюся, што такі ж патрыятычны рух пачнецца ў іншых інстытутах і універсітэтах рэспублікі».

«Каб беларуская мова магла ўсебакова развівацца, трэба, каб яна стала аб'ектыўнай неабходнасцю. Гэта магчыма толькі праз пашырэнне сферы яе ўжывання. Рабіць гэта неабходна паступова, без уласцівай нашым ведамствам бюракратычнай каманднасці, раячыся з шырокай грамадскасцю», — піша ў рэдакцыю мінскі педагог **А. Хачатуран.**

Кароценькі ліст прыслаў **А. Багдановіч** (пра сябе чытач не напісаў нічога) з Кохтла-Ярве. Вось ён, гэты ліст: «Апошнім часам у друку можна прачытаць шмат цікавага. Звярнулі ўвагу лічбы, якія прыведзены на старонках газеты «Советская Эстония» (у артыкуле «Аб нацыянальных працэсах у Савецкай Эстоніі»). Там ёсць і лічбы, якія тычацца нашай Беларусі, у прыватнасці, лічбы аб колькасці кніг на нацыянальных мовах. Чаму так здарылася, што на беларускай мове выдаецца так мала кніг (апошняе месца сярод саюзных рэспублік)?»

Нямала лістоў аб эксперыменце з адкрыццём беларускамоўных класаў у шэрагу рускіх школ горада Мінска. Літаральна ўсе чытачы ставяцца да такіх спроб адмоўна. Вось. напрыклад, што піша мінскі мастак Рыгор **Сітніца:**

**«Мне думаецца, што лёс нацыянальнай культуры датуль будзе пад пагрозай, пакуль ён будзе вырашацца толькі намаганнямі энтузіястаў. У гэтым мяне пераканалі і сёлетнія сходы бацькоў будучых першакласнікаў, на якіх мне даводзілася выступаць у незайздроснай і невясёлай ролі агітатара за родную мову. Варта таксама згадаць, што на гэтых сходах давялося пачуць і выступленні прадстаўнікоў раёна, якія не толькі не пераконвалі, але і прымушалі засумнявацца ў іх шчырасці. Ды і ці могуць быць шчырымі словы людзей, якія толькі год ці два назад вызвалялі сваіх дзетак ад вывучэння роднай мовы, а катастрафічную сітуацыю ў нацыянальнай культуры лічылі нармальнай і заканамернай з'явай на шляху да поўнага зліцця ўсіх нацый і народнасцей?**

**Пасля такіх бацькоўскіх сходаў у мяне заўсёды ўзнікала пытанне—няўжо справа выратавання роднай мовы, адраджэння помнікаў гісторыі і культуры, вяртання народу яго гістарычнай памяці з'яўляецца прыватным пытаннем нейкіх дзівакоў з асяроддзя творчай інтэлігенцыі і студэнтаў? Няўжо яшчэ не настаў час акружыць гэтыя пытанні дзяржаўным клопатам? Няўжо лёс роднай мовы не заслугоўвае таго, каб быць сур'ёзна і заклапочана разгледжаным на адной з сесій Вярхоўнага Савета БССР? няўжо адна са старажытнейшых моў не вартая таго, каб стаць для свайго народа дзяржаўнай мовай? Наўрад ці гэта было б залішнім. Бо цвяроза аналізуючы сённяшнюю моўную сітуацыю, становіцца зразумелым, што вырашэнне вострай праблемы будзе станоўчым толькі тады, калі пытанням нацыянальнай культуры будзе нададзена належная ўвага і значнасць на самым вышэйшым дзяржаўным узроўні.**

Такія альбо блізкія да такіх думкі — у лістах Алеся **Яўсеенкі** з Гомеля, Часлава **Болбата** з пасёлка Бярозавы Сонечнага раёна Хабараўскага краю, **М. Руцкага** з Мінска, Мікалая **Лукшы** з гарадскога пасёлка Бераставіца Гродзенскай вобласці.

Аб тым, што мінуў час эмоцый і надышла пара практычнай, канкрэтнай работы ў «духоўным адраджэнні Беларусі», піша мастацкі кіраўнік Дома культуры саўгаса «Чырвонагвардзейскі» Пухавіцкага раёна Юрый **Гайдук,** рабочы з Мінска Анатоль **Калачынскі,** салдат тэрміновай службы **І. Лупакоў** (яго ліст прыйшоў з далёкага Казахстана).

Цікавую думку выказвае ў сваім лісце ў рэдакцыю наш чытач з Вільнюса Фёдар **Нюнько.** Згадаўшы сапраўдны росквіт мовы і нацыянальнай культуры ў братняй, суседняй Літве і зусім іншае становішча ў гэтай справе ў Беларусі, ён піша: «Ці не гэтай рознасцю тлумачыцца і наша сацыяльна-культурная адсталасць у параўнанні з суседзямі? Параўнайце літоўскі Шальчынінкай і беларускія Беняконі. Калісьці гэта былі зусім аднолькавыя пасёлкі, Беняконі нават, бадай, вылучаліся ў лепшы бок. А цяпер? Беняконі засталіся амаль такімі ж, як і былі, а Шальчынінкай вырас у сапраўдны сучасны горад. Можна параўнаць і іншыя гарады, пасёлкі і вёскі Літвы і Беларусі, і параўнанне гэтае будзе не на нашу карысць. Мне, як беларусу, крыўдна за ўсё гэта».

Скончыць гэты агляд хочацца лістом нашай ужо, можна сказаць, пастаяннай аўтаркі, смаргонскай настаўніцы Алены Віктараўны **Рудко.** Ліст яе выкліканы лімаўскай публікацыяй «Люблю беларускую мову, але...», змешчанай у штотыднёвіку 24 чэрвеня. Алена Віктараўна падтрымлівае ў лісце слушныя прапановы прыхільнікаў роднага слова, выказаныя ў публікацыі, спрачаецца з тымі, хто сцвярджае, напрыклад, што нібыта «вывучаць беларускую мову ў школах цяжка, бо яна блізкая да рускай мовы», абураецца бялыніцкім «інквізітарам», які выказаўся за тое, каб «усю літаратуру на беларускай мове спаліць».

На завяршэнне свайго ліста А. Рудко піша: «Аўтары артыкула «Люблю беларускую мову, але...» выказваюць спадзяванне, што ёсць падставы для аптымізму. Так, ёсць. Лёд крануўся. Вось і прыклады. 29 мая ў нашым райцэнтры праводзілася мастацка-спартыўнае свята «Смаргонь-88». Цудоўна арганізаванае, яно вылучалася яшчэ і тым, што ад пачатку да канца (з 12 да 23 гадзін) вялося на беларускай мове. Упершыню. Па-беларуску гаварылі вядучыя. Па-беларуску загаварыў першы сакратар райкома партыі (упершыню за 23 гады, што жыву ў Смаргоні, пачула беларускую мову ад работнікаў райкома) — аказваецца, умее, і цудоўна гаварыў. Так што будзе жыць родная мова. Можа, не ўсё ўдасца адразу. Ламаць дроў не трэба. Не так лёгка будзе тым, хто не быў далучаны да мовы, перабудаваць сябе, свае адносіны да яе. Пагардлівыя адносіны да беларускай мовы складваліся гадамі, дзесяцігоддзямі. За адзін год, адным махам, перарабіць усё немагчыма. Але калі мы, тыя, хто «нясе роднае слова» (гэтакая фраза прагучала ў адной з тэлеперадач «Ліра» і мне спадабалася), возьмемся разам, настойліва, разумна, упарта,—здолеем. Толькі працай можна даказаць сваю любоў да роднага слова і сваё жаданне дапамагчы яго адраджэнню».

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ «ЛіМа».**

## ЧЫТАЮЧЫ ЧАСОПІСЫ

# «Меў талент і палёт...»

**Прыгожы юнак з засяроджаным, нават у нечым крыху самотлівым позіркам, на грудзях — Георгіеўскі крыж... Гэта адзіны здымак нашаніўскага паэта, перакладчыка, публіцыста Сцяпана Пяцельскага, альбо М. Арла. Таго самага М. Арла, якога ў артыкуле «За тры гады. Агляд беларускай краснай пісьменнасці 1911—1913 гг.» згадваў, сярод іншых, Максім Багдановіч: «Трэба адмеціць яшчэ Я. Журбу, М. Арла і Янука Д. М. Арол і Янук Д. — людзі, што маюць палёт і талент, але мала шліфуюць яго. Трапляюцца ў іх часам і вершы даволі сільныя па пад'ёму і думцы, але і дужа часта з недахватамі».**

**Здымак М. Арла змешчаны ў шостым нумары часопіса «Беларуская мова і літаратура ў школе» — як дапаўненне да артыкула Я. Саламевіча «М. Арол — нашаніўскі паэт, перакладчык, публіцыст». Тут жа — і шаснаццаць ягоных вершаў. Тым самым адбылося вяртанне спадчыны пісьменніка, які, несумненна, варты таго, каб яго імя было не толькі ў гісторыі нашай літаратуры.**

**А магло б гэта быць зроблена і раней. Яшчэ тады, калі за пошукі таго, што звязана з жыццём і творчасцю М. Арла, узяўся нястомны гудзевіцкі краязнавец, настаўнік беларускай мовы і літаратуры Алесь Мікалаевіч Белакоз са сваімі выхаванцамі. У школьным музеі знайшлося месца і матэрыялам пра М. Арла. Балазе, у свой час ён настаўнічаў у Струзе, гэта значыць, у тутэйшых мясцінах. Гудзевіцкія краязнаўцы нават прапанавалі рукапіс кніжкі паэта выдавецтву «Мастацкая літаратура».**

**Кніжка пакуль што не пабачыла свет, але трэба спадзявацца, што яна ўсё ж выйдзе. Бо «М. Арол, — піша Я. Саламевіч, — адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры пачатку XX ст., пачынальнік шчыры, таленавіты. І памяць пра яго ў нашым народзе павінна быць дзейснай, жывой. Яго літаратурная спадчына і сёння будзе служыць нашай літаратуры, як яшчэ адна цаглінка, закладзеная ў падмурак беларускага прыгожага пісьменства яшчэ разам з Янкам Купалам і Якубам Коласам».**

**Я. Саламевіч мае на ўвазе не толькі паэтычную спадчыну М. Арла, а і яго публіцыстычную дзейнасць. Так, так, і «публіцыстычную дзейнасць». М. Арол актыўна змагаўся за росквіт нацыянальнай культуры. Настаўнічаючы на пачатку стагоддзя ў Струзе, ён трывожыўся, што ў школе немагчыма выкладаць на беларускай мове, яго непакоіла тое, што мясцовая інтэлігенцыя інертная, абыякавая да будучыні свайго народа.**

**У вершы «Сынам Беларусі» М. Арол не хаваў сваёй непрыязі да так званых «сыноў», якія «зусім... адхіліліся» ад роднай староны, «быццам не маць ім была!», «быццам Юды, ўрагам яе кінулі, здраднікі вы, не сыны!». Публікацыю гэтага верша ў «Нашай Ніве», удакладняе Я. Саламевіч, «суправаджаў такі допіс-крык аўтара: «Мяне вельмі здзівіла, не, не здзівіла, а хутчэй толькі паказала той цяжкі сон, якім спяць нашы інтэлігенты ў Беларусі... Нашы інтэлігенты (ёсць многа настаўнікаў) нічым не цікавяцца, акром карт і гарэлкі».**

**Апошнія гады М. Арол служыў у арміі, памёр ад тыфу на Украіне. Яшчэ настаўнічаючы ў Літве, на Ковеншчыне, як зазначае Я. Саламевіч, «М. Арол перапрацаваў - падрыхтаваў зборнік сваіх вершаў «Лірнік» і выслаў яго ў Вільню на імя сакратара Беларускага выдавецкага таварыства. Набралася ажно 50 вершаў. Праўда, не ўсе аднолькавага мастацкага ўзроўню». Кніжка не выйшла, але рукапіс захаваўся. Зараз Я. Саламевіч пры падтрымцы рэдакцыі часопіса «Беларуская мова і літаратура ў школе» (гэтыя публікацыі, безумоўна, дапамагаюць знаходзіць яму твар выдання, адрасаванага ўсім, каго хвалюе лёс нацыянальнай мовы і літаратуры) данёс частку іх да чытача.**

**У тым, што кніжка М. Арла — не толькі яго вершы, але і публіцыстыка, лепшыя з перакладаў — прыйдзе да чытача, зараз сумнення няма. Але ў той жа «Мастацкай літаратуры» на гэта патрэбен час. А што калі да гэтага падключыцца рэдакцыя часопіса «Маладосць»? Можа, варта «аддаць» адну з кніжак яго «Бібліятэкі...» М. Арлу? Ён жа пражыў усяго дваццаць восем гадоў.**

**А. КУНЦЭВІЧ.**

хан». Шпіёнаманія 50-х гадоў і традыцыйны пратэкцыянізм: маем на ўвазе бегла пазначаны эпізод з нейкім Зяблікам, з якога два дакладчыкі зрабілі «ідэалагічнага дыверсанта», і уверцюру да біяграфіі Громавай.

Іншы чытач, можа, і што іншае ў прыведзеных цытатах убачыць, бо ні Дастаеўскі, ні Афганістан, ні Сталін у тэксце не называюцца, няма слоў «культ», «пратэкцыянізм» і да т. п. Але, здаецца, уражанне вось гэтае — «смелай гаворкі намёкамі» — ёсць. І гэта наша нядаўняя рэальнасць.

Раман А. Асіпенкі напісаны так, што магчыма друкаванне яго спачатку ў трохчацвяртным варыянце, потым далучэнне астатняга больш «рэвалюцыйнага» зместу. Персанажы, мастацкія характары пры гэтай працэдуры не разбураюцца. Адчуваецца толькі выхад да непасрэднай размовы з аўтарам, а не з ягоным рупарам — Богшам ці Баравіком-Залеўскім (гэты персанаж, напрыклад, згадвае 50-я гады).

У цэлым твор Алеся Асіпенкі павучальны. Калі хочацца з нечым спрачацца, то не на голым месцы: раман — адбітак часу. А час быў такі, што пра яго, пра рэальнае месца ў ім мастака сёння якраз і спрачаюцца.

● **ЧЫТАЧ ДЗЕЛІЦЦА ЎРАЖАННЕМ**

# ЗБІРАЛЬНІК СЛОВА МАТЧЫНАГА

**Відаць, многія з тых, хто чытаў раман А. Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя», падоўгу затрымліваўся на сакавітых народных словах. А тут іх пасеяна шчодрай рукою сатырыка не так ужо і мала. Вось хоць бы гэтыя: ХАЎБОСЦЕ, ВУДЫЛЬ, КРЫНДЖАЛЫ, КАЛУПАЙСТВА, УВАЖЫСТЫ, ВЕРЛАВОКАСЦЬ, НАБРЫДЗЬ, МІЖГУЛЫНДЗІЦА... Прыводжу тыя, што адразу ўсплылі на памяць.**

**Праца А. Мрыя над словам, збіранне яго і ўшанаванне — гэта цікавая старонка нялёгкага жыцця местачковага настаўніка, а потым прафесіянала-краязнаўцы, пісьменніка.**

**Сістэматычна запісваць народныя словы і выразы, фальклор А. Мрый стаў з сярэдзіны 20-ых гадоў, калі па ўсёй Беларусі надзвычай актыўна разгарнулася работа па збіранню лексічнага матэрыялу для будучых слоўнікаў.**

**Адна са старажылак Краснаполля Яўгенія Паўлаўна Каплунова, жанчына нялёгкага і цікавага лёсу, прыгадваючы свайго настаўніка Антона Андрэевіча Шашалевіча (А. Мрый — гэта літаратурны псеўданім), апавядала пра ягоную амаль фантастычную захопленасць фальклорам і гутарковай мовай. Слова, пачутае на нядзельным кірмашы, у чарзе па хлеб, вымаўленае школьнікам, Андрэй Антонавіч тут жа запісваў ці стараўся запомніць. Пры гэтым нярэдка, як кажуць, на прамілы бог прасіў дзядзьку ці цётку, з вуснаў якіх сарвалася гэтае слова, прыгадаць, а як яшчэ яго вымаўляюць у іхняй мясцовасці і што яшчэ яно азначае. Асабліва ж плённай стала праца А. Шашалевіча тады, калі ў недалёкім ад Краснаполля Мсціславе адзіны на ўсю акругу Педагагічны тэхнікум узначаліў І. К. Бялькевіч, які прыехаў сюды з марай скласці слоўнік мовы усходніх рэгіёнаў Магілёўшчыны.**

**У Мінску для ўпарадкавання матэрыялаў і падрыхтоўкі да выдання слоўнікаў была створана слоўнікавая камісія. У ліку найбольш актыўных карэспандэнтаў яе называецца і настаўнік А. А. Шашалевіч, які даслаў на яе адрас 2915 картак-слоў. Актыўны збіральнік матчынага слова, А. А. Шашалевіч быў нават заахвочаны спецыяльнай прэміяй з фонду Слоўнікавай камісіі. Зрэшты, за свае запісы Антону Андрэевічу чырванець не выпадала. Усе карткі былі ім аформлены на добрым навуковым узроўні: да кожнага слова падавалася транскрыпцыя, ілюстравалася яно кантэкстам сказа, вызначаліся ўсе яго значэнні. І таму, калі ў 1927 годзе Слоўнікавая камісія арганізавала разгляд «Беларуска-расійскага» слоўніка М. Байкова і С. Некрашэвіча, атрымаў экземпляр яго і А. Шашалевіч. Тагачасны рэдактар Слоўнікавай камісіі прафесар Б. І. Эпімах-Шыпіла падкрэсліваў, што заўвагі, зробленыя А. Шашалевічам, даюць багаты матэрыял, уносяць істотныя папраўкі.**

**Вялікую цікавасць праяўляў А. Мрый і да вуснай народнай творчасці. Зрэшты, любоў да фальклорнай спадчыны была ў абодвух братоў Шашалевічаў. Малодшы, Васіль,— адзін з пачынальнікаў беларускай савецкай драматургіі,— цікавіўся песнямі і музыкай, што бытавалі найбольш у вясковым асяроддзі. Вядома, што ён некальні разоў заходзіў са сваёй скрыпачкай, на якой цудоўна іграў, да Ефрасінні Міхайлаўны Гарэцкай, каб пакласці на музыку песні, што ведала гэтая жанчына. У «Хроніцы» першага нумара часопіса «Узвышша» за 1927 год паведамлялася, што «музычная падсекцыя ІБК (Інстытута беларускай культуры. — М. К.) рыхтуе да друку зборнік беларускіх народных мелодый, сабраных у свой час Я. Прохаравым, Чуркіным, В. Шашалевічам, А. Грыневічам, М. Ігнатоўскім, Азаронкам і інш. У зборнік увойдзе да 1000 песень».**

**Мудрае народнае слова, фальклор былі першымі і ці не найлепшымі дарадцамі братоў-пісьменнікаў. Але яны не толькі «спажывалі» створанае народам, але і рабілі ўсё магчымае, каб захаваць гэта багацце, перадаць яго як дарагую спадчыну наступнікам.**

**Захопленасць фальклорам, а таксама прыклад малодшага брата Васіля, казка-феерыя якога «Апраметная» ўжо ў 1925 годзе паказвалася беларускімі студыйцамі на маскоўскай сцэне, відаць, і заахвоцілі настаўніка гісторыі і французскай мовы Краснапольскай школы II ступені А. Шашалевіча ўзяцца за пяро.**

**М. КАРПЕЧАНКА,**
**журналіст.**

г. п. Бялынічы.



© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

# І АЖЫВАЕ ЧАС...

МАЛАДЫЯ кінематаграфісты (ці толькі маладыя?) не вельмі цікавяцца гісторыяй беларускага кіно. У лепшым выпадку ведаюць кінастужкі сваіх старэйшых настаўнікаў ці калег, з якімі працуюць. Што да кінематаграфістаў мінулага, дык ім, бадай, вядомы імёны толькі дзвюх асоб — кінарэжысёраў Ю. Тарыча і У. Корш-Сабліна. Тарыч «на слыху» — ёсць кінематаграфічная прэмія імя Тарыча, яго імя носіць адна з новаўтвораных студый «Беларусьфільма». Корш-Саблін доўгія гады быў фактычным мастацкім кіраўніком «Беларусьфільма», узначальваў Саюз кінематаграфістаў... Імёны іншых — з тых, хто стаяў ля вытокаў беларускага кіно і аказаў прыкметны ўплыў на яго станаўленне, на жаль, сёння малавядомыя. Сярод іх — імёны першых беларускіх сцэнарыстаў Рыгора Кобеца і Анатоля Вольнага, якія на пачатку існавання кінамастацтва рэспублікі ў значнай ступені вызначалі яго тэматычную і жанравую скіраванасць. Скажу больш: бадай, за ўсю гісторыю беларускага кінематографа цяжка знайсці другі прыклад, калі б менавіта сцэнарысты (а не толькі рэжысёры) адыгрывалі такую вялікую ролю ў творчым жыцці сваёй кінастудыі.

Звычайна сцэнарыст (хоць ён і стваральнік літаратурнай асновы фільма) займаецца толькі сваёй непасрэднай справай; яго ўдзел у працэсе развіцця кінематографа звычайна абмяжоўваецца сцэнарыем свайго фільма, і толькі. Зусім не так было ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў, калі працавалі ў кіно беларускія літаратары Р. Кобец і А. Вольны. Кінастудыя «Савецкая Беларусь», як вядома, амаль дзесяць гадоў, з 1928 па 1938, знаходзілася ў Ленінградзе, сувязь яе з Беларуссю, як той казаў, вымагала лепшага, таму ўдзел беларускіх літаратараў у справах кіно меў значэнне (і тут не будзе перабольшання) найвялікшае. Кобец і Вольны самааддана працавалі ў беларускім кінематографе. Невыпадкова яны аказаліся сярод першых беларускіх кінематаграфістаў, якія атрымалі — у 1935 годзе — званне заслужаных дзеячаў мастацтваў рэспублікі.

Менавіта Рыгору Кобецу мы абавязаны ў першую чаргу з'яўленнем на экранах 30-х гадоў такіх вядомых фільмаў, як «Двойчы народжаны» (у пастаноўцы Э. Аршанскага) і «Шукальнікі шчасця» (у пастаноўцы У. Корш-Сабліна). Гэтыя фільмы выдзяляліся сярод тых, якія з маркай студыі «Савецкая Беларусь» выйшлі на экраны ў перадваеннае дзесяцігоддзе. Зусім розныя па праблематыцы і жанравых асаблівасцях, яны вылучаліся выразнымі, непаўторнымі характарамі асноўных герояў, вастрынёй драматычных канфліктаў. Вядома, названыя работы не пазбеглі моцнага ўплыву свайго часу. Аднак у адрозненне ад шмат якіх вопыт працы над імі, іх мастацкая вартасць здольны выклікаць цікавасць і сёння, калі яшчэ так мала з'яўляецца таленавітых кінатвораў пра сучаснасць. Хоць «Двойчы народжаны», «Шукальнікі шчасця» створаны амаль паўстагоддзя назад, глядзець і цяпер іх цікава і карысна. Цікава — таму што абедзве карціны даволі ёміста раскрываюць чалавечы лёс і драматычныя калізіі трыццатых, карысна — таму што прынцыпы драматургічнай пабудовы фільмаў, акцёрскага выканання заслугоўваюць пільнай увагі з пункту гледжання сённяшніх творчых праблем.

Ці шмат мы можам назваць работ у кіно акцёраў беларускага тэатра, якія можна было б параўнаць з У. Крыловічам у ролі «стыхійнага» чалавека — селяніна Рыгора Лапуха? А якая з беларускіх кінакамедый мела такі поспех у гледачоў, як «Шукальнікі шчасця»? Надоўга задумаемся ў пошуках адказу...

У фільме «Двойчы народжаны» ажывае час няпросты, бурны, складаны. Калектывізацыя ў беларускай вёсцы... Моцны чалавек з нялёгкім характарам, які заблытаўся ў супярэчнасцях жыцця і не можа прыстаць да свайго берагу... Такіх нямала было тады — у перыяд пералому векавых асноў сялянскага жыцця. Былы канакрад Рыгор Лапух — чалавек на раздарожжы. Вось так і распачынаецца канфлікт: вострае сутыкненне чалавека мінулага з новым асяроддзем. Кобец надзяліў свайго героя шырокай душой, адкрытым сэрцам і лірызмам.

«У карціне ёсць нешта незвычайна прывабнае і прыгожае, — пісала «Литературная газета» 16 сакавіка 1935 года. — Гэта прывабнасць нагадвае мяккую ўсмешку, якая асвятляе твар добрага чалавека... задушэўнасць, незвычайная цеплыня пранізвае ўвесь сцэнарый, і гэтую аўтарскую інтанацыю збераглі рэжысёр, аператар і акцёры ў сваёй рабоце, што дало бліскучы вынік: фільм атрымаўся ўражлівы, хвалюючы».

Адным словам, драматург Кобец зрабіўся першаадкрывальнікам аднаго з самых яркіх, своеасаблівых герояў беларускага кінематографа. «Двойчы народжаны» стаў этапным фільмам беларускага кіно 30-х гадоў. Адзначым, не было ў кінематографе рэспублікі ў той перыяд твора на сучасную тэму, дзе б так глыбока і пранікнёна раскрываліся драматычныя калізіі сучаснага жыцця.

Сцэнарый «Шукальнікі шчасця» Кобец напісаў сумесна з І. Зэльцарам. Нарадзілася вясёлая, іранічная камедыя пра Піню Копмана, індывідуаліста і хціўца, які марыць разбагацець любымі сродкамі, і аб тых будаўніках новага жыцця, для якіх філасофія Піні і яму падобных далёкая і чужая. Вобраз Піні зрабіўся надзвычай вядомым. Гледачы з усмешкай паўтаралі яго рэплікі: «Мой арганізм не прымае цяжкай працы», «У мяне галава, і пра мяне не турбуйцеся» і шмат іншых. Смех і жаль выклікаў Піня з яго ружовай марай стаць фабрыкантам, каралём падцяжак.

Фільм упрыгожылі песні і музыка І. Дунаеўскага — кампазітара, слава якога яшчэ толькі пачыналася. У памяці гледачоў засталася таленавітая ігра акцёраў У. Зускіна і М. Блюменталь-Тамарынай, якая стварыла чулівы, пранікнёны вобраз маці шматдзетнай сям'і. Стары фільм час ад часу з'яўляецца на экранах і ў нашы дні, прыцягвае ўвагу гледачоў.

На жаль, сёння мы не маем магчымасці пабачыць карціну «Дняпро ў агні» пра абуджэнне класавай свядомасці рабочых-плытагонаў на Беларускім Палессі напярэдадні рэвалюцыйных падзей 1905 года, над сцэнарыем якога Кобец працаваў сумесна з І. Барашкам. Стужка не захавалася. Пра фільм і выкананне ў ім ролі атамана плытагонаў Нічыпара Чэха У. Крыловічам нам застаецца толькі меркаваць па нешматлікіх рэцэнзіях і ўспамінах кінематаграфістаў - ветэранаў. Ёсць сярод рэцэнзій такія, дзе без усякіх доказаў стваральнікі фільма абвінавачваюцца ў «вульгарным сацыялагізме». Мемуары кінематаграфістаў сведчаць зусім пра іншае: фільм паводле іх успамінаў — арыгінальны, таленавіты твор...

Не ўсе сцэнарыі Кобеца былі ажыццёўлены на кінастудыі — «Паўстанне гневу» (сумесна з А. Вольным, 1935 г.) пра дзеянні легендарнага палескага партызана Салаўя, «Героі Балтыкі» (1939) — пра рэвалюцыйныя падзеі на Балтыйскім флоце ў 1918 годзе...

Р. Кобец прыйшоў у кіно ўжо дастаткова вядомым тэатральным драматургам. У тэатры на пачатку 30-х гадоў з вялікім поспехам ішла яго п'еса «Гута», прысвечаная рабочаму класу рэспублікі. Яна стала этапнай і для творчасці рэжысёра Е. Міровіча, і для акцёра У. Крыловіча, выканаўцы галоўнай ролі — рабочага Мароза. «Гута» была першай беларускай п'есай, якая ставілася за мяжой. Але неўзабаве, у адказ на заклік кіраўніцтва рэспублікі памагчы маладому мастацтву кіно, малады пісьменнік звязвае сваё творчае жыццё з кінематографам. Пачынае са сцэнарыяў дакументальных стужак, агітпрапфільма «Ураган», затым стварае сцэнарыі фільмаў, пра якія ішла гаворка вышэй...

Неабгрунтавана рэпрэсіраваны ў час культу асобы, Кобец на працягу 18 гадоў быў адлучаны ад творчасці. На вялікі жаль, беларускае кінамастацтва ў нялёгкі перыяд свайго станаўлення страціла ў самым росквіце таленту аднаго з лепшых сваіх дзеячаў. Ці ёсць патрэба даводзіць, што гэтая страта не магла не адбіцца адмоўна на развіцці кінематографа рэспублікі? Але тое, што паспеў зрабіць Рыгор Кобец у беларускім кіно, заслугоўвае самай вялікай пашаны.

Анатоль КРАСІНСКІ.

# НОЕЎ КАЎЧЭГ

## СТАРОНКІ З АПОВЕСЦІ

Аповесць «Ноеў каўчэг» я напісаў у 1964 г., але апублікаваць яе ў той час спазніўся: зноў была забаронена тэма крывавых рэпрэсій у гады культу асобы Сталіна. Так і ляжыць (ужо 24 гады) у маім хатнім архіве гэта аповесць...

Кароткая перадгісторыя гэтага твора.

У 1937 г. я паехаў на Далёкі Усход у творчую камандзіроўку ад СП БССР. У 1938 г., у самы разгар культу асобы, быў арыштаваны, мяне абвінавацілі ў шпіянажы на карысць Японіі, Англіі, Польшчы. Тым разам абышлося, выпусцілі. У 1941 г. я зноў быў арыштаваны органамі НКУС Хабараўскага краю (па загадзе Гаглідзе, паплечніка Берыя). На гэты раз мне было прад'яўлена абвінавачанне ў тым, што я рэзка крытыкую Сталіна. Мяне без суда і следства саслалі на 10 год у лагер. Вось чаму героі майго твора — непрыдуманыя, гэта мае сябры па няшчасцю, якія вытрымалі (ці не вытрымалі) самыя нямыслімыя пакуты і здзекі не толькі з боку лагернай адміністрацыі, але і з боку рэцыдывістаў, якіх трымалі разам з палітычнымі і дазвалялі ім рабіць з намі ўсё, што пажадаюць.

«Ноеў каўчэг» — мой роздум аб складанасцях жыцця, аб мужнасці людзей, якія насуперак несправядлівасці і жорсткасці засталіся самімі сабою, з чыстым сумленнем і не страцілі пачуцця чалавечай годнасці.

АЎТАР.

і слёзы, ці злосна-пякучыя, ці горкія ціхія слёзы.

— Сімакоў — сямісотка!

— Раманенка — сямісотка!

— Латышаў — шэсцьсот!

— Курылін — васьмісотка!

— Антанюк — пяцісотка!

— Брыгадзір! Зноў мне сярэдзінка? Сёння ж мая чарга на гарбушку, а мне...

Лясь!.. Звонкая аплявуха брыгадзіра — кароткі і пераканаўчы адказ. Інцыдэнт, як кажуць, вычарпаны. Прэтэнзій больш няма.

— Крамарчук — шасцісотка!

— Федасееў — чатырыста грам, як лёду!

— Па новай чатырыста? — Федасееў, размазваючы па твары слёзы, крычыць дрыготкім ад крыўды голасам. — Не вазьму!.. Брыгадзір! Я ж гэтак дайду... Я ж дубара дам...

— Менш філонь — большай пайка будзе,— як адрэзаў брыгадзір.

Скардзіцца дарэмна. На каго скардзіцца і каму? Хто цябе будзе слухаць? А калі і выслухаюць — не паверыць.

— Не філонь, падлюка, укалывай.

Брыгадзір падмануў? А што рабіць брыгадзіру? У брыгадзе шэсць «рыл» рэцыдывістаў-законнікаў. Жэрці яны хочуць? Хочуць. А працаваць?

— Ты што, падла, шэсць рыл не можаш пракарміць? Што ж ты за бугор? Нам укалываць не паложана, мы ў аўтарытэце. Вырыгні пайку і скажы, што знайшоў. Сумей вырыгнуць. Менш васьмісотак не бярэм. Уразумей... пакуль мы цябе «не сработали».

Пагроза страшная. Брыгадзір гэта ведае добра і баіцца. Ужо не аднаго брыгадзіра «сработали». Вось чаму пайка Федасеева цягне чатырыста грамаў, «як лёду». Вось чаму Федасееў, Мікалаенка, Райхельсон, Беціньш, Шпілеўскі, Абдурахманаў і іншыя атрымоўваюць па чатырыста грамаў нягледзячы на тое, што яны працуюць. І вось чаму гэтыя людзі хварэюць пелаграй і дыстрафіяй — грознымі, страшэннымі спадарожніцамі голаду. «Законнікі», або «людзі», як яны сябе называюць, не надрываюцца ад працы. У іх блакітная кроў, ім усё дазволена. Яны нахабныя, груба адымуць пасылку, паб'юць рабацягу і знімуць з яго барахло. У іх сімвал веры: «нахабства — другое шчасце». Гэта яны ўкаранілі ў лагерах сваю, нідзе і нікім не запісаную запаведзь: «Памры ты сёння, а я заўтра!»

Скардзіцца? І не смей. Калі не тут, не на гэтай калоне, дык на любой перасылцы цябе абавязкова «сработают», прытым з лютасцю і садызмам неймаверным. Яны будуць цябе падвешваць, выломваць рукі, вырываць зубы, і пры гэтым рагатаць дзікім звярыным рогатам, смяяцца да колік у жываце і спяваць, а больш дакладна, раўсці на ўсё горла песню, як толькі можна грамчэй, каб заглушыць твой нечалавечы крык. Ні адзін нават самы драпежны звер на зямлі не можа параўнацца з імі ў жорсткасці, часта зусім бязмэтнай, непатрэбнай, а так... дзеля пацехі-забавы. «Мы людзі, мы уркі, і нам дазволена рабіць з фраерамі ўсё, што нам захочацца. На тое яны і фраеры». І якімі яны бываюць агіднымі баязліўцамі, калі даведзены да адчаю рабацяга, не вытрымаўшы здзеку, хапаецца за нож або сякеру. Як яны поўзаюць ля яго ног, цалуюць брудныя корды, моляць аб літасці, і ў доказ сваёй адданасці і пакорлівасці ядуць зямлю, нават конскі кал, каб зберагчы сваё подленькае жыццё. І калі размякчыцца сэрца рабацягі, заўтра ж яны «падкнокаюць» яго ўсёй бандай (адзін на адзін — ніколі) у цёмным кутку і ўчыняць над ім расправу такую жудасную, такую вынаходніцкую, якая нават у сне не снілася вялікаму інквізітару Ігнацію Лаёле, якая нават д'яблу на самым донцы пекла не прыходзіла ў галаву.

Але вось з бойкай, крыкам і гвалтам закончана раздача хлеба. У бараку робіцца значна цішэй. Толькі ля печак, аблепленых дахадзягамі (быццам мухі на агрызку цукру), пануе ажыўленне і мітусня. На распаленай да чырвані пліце булькае ў кацялках запраўленая «па новай» баланда. І якімі толькі эпітэтамі на аздабляюць галодныя рабацягі гэта традыцыйнае лагернае варыва!

— Суп рататуй! Па краях капуста, а ў сярэдзіне...

— Крупінка за крупінкай ганяецца з дубінкай!

Хаця ні аб якіх крупінках і гаворкі быць не можа. Круп і ў паміне няма. Крупы значацца толькі ў раскладцы, распісанай і падпісанай лагернымі вяльможамі, а прасцей кажучы, «прыдуркамі», гэта значыць: бухгалтарам, пампабыце, рахункаводам прадстала, капцёрам і іншай саранчой. Крупы варацца ў асобным катле, аздобленыя баваўняным маслам, а часам нават і спецыямі, але... аб такой страве рабацягі нават марыць не смеюць. Гэта блюда багоў, гэты шэдэўр кулінарыі не для іх, і таму:

— Ванька-а-а! Цюрэ замастырым або так баланду пажрэм з хлебам?

— Цюрэ,— пахмура бурчыць Ванька. — З чаго замастырыш? Бульбы ў нас на ны?

— Ёсць бульба. Касы пазыку прывалок... пяць бульбін. Зда-а-ровыя!

— Тады цюрэ! — згаджаецца павесялелы Ванька.

...К абеду буран сцішыўся раптоўна, як і наляцеў учора з вечара. У высокім бяздонным небе павольна праплывалі рэдкія кучаравыя аблокі. Яркае, быццам вымытае, сонца шчодра пасылала праменні, і тыя драбіліся ў бяскрайніх снягах мірыядамі рознакаляровых агеньчыкаў. Ціха пагойдваліся ў белых папахах сосны. Уся зона пакрылася шчыльным, ледзь хвалістым белым дыванам і стала надзіва чыстай і, бадай, па-свойму ўтульнай.

Адразу ж пасля шумнага абеду па бараках пачаў насіцца, як угарэлы нарадчык.

— Выходзь на развод! Усе да адзінага на развод! Жыва!

Вось табе і адпачылі. Вось табе і пакантаваліся.

— Якая можа быць праца з паўдня? Дзень жа кароткі, як заечы хвост.

— Пакуль на аб'ект прыйдзем ды пакуль назад... сцямнее. Калі ж працаваць?

— Ну, распраязві іх у душу! Ёсць толк, няма толку — ганяюць гады рабацяг, як салёных зайцоў.

— Мабыць, і сапраўды, як кажуць: мне не трэба, каб ты працаваў, трэба, каб ты пакутаваў.

Чуліся нараканні, зэкі чартыхаліся, мацюкаліся, але на развод выходзілі. Тут рэжым суровы. Тут жартаваць не любяць. Ёсць толк, ці няма, падабаецца табе ці не — трымай язык за зубамі, маўчы і выконвай тое, што табе загадаюць, на тое ты і зняволены.

Строяцца перад вахтай пабрыгадна, з інтэрвалам у чатыры крокі брыгада ад брыгады... З надзірацельскай у суправаджэнні пампапрацы выйшаў начальнік з асобнага лагпункта маёр Багрын, ці проста Багор, як за вочы называюць яго зэкі. Высокі і зграбны, у добра прыгнаным абмундзіраванні, ваенным крокам ён абышоў строй ад фланга да фланга. Хвацка ссунутая на патыліцу папаха, ладна скроены чорны кажушок, ледзь скрыўленыя ногі, позірк шэрых ястрабіных вачэй — усё ў ім з галавы да пят нагадвала ўдалога кавалерыста, адчайнага рубаку.

Лёгкім ветрыкам праляцеў па радах асцярожны шапаток:

— Багор сёння не таво... не ў сваім выглядзе... заўважаеце?

— Што... п'яны?

— Не, цвярозы.

Нехта пырснуў ціхім прыдушаным смяшком і спалохана замёр.

— Думае... мусіць, рэчугу закаціць, — здагадваюцца зэкі.

І яны не памыліліся. Стаўшы перад строем, маёр Багрын яшчэ раз абвёў позіркам людзей і хрыпла скамандаваў:

— Спыніць курэнне! Слухаць уважліва... двойчы паўтараць не буду.

Замерлі рабацягі. Нават смаркацца перасталі. І ў напружанай цішыні ўладна загучаў голас начальніка.

— Слухайце, рабацягі! Сёння з выпадку дрэннага надвор'я дзень лічыцца не рабочым, актыраваным. І ўсё ж адпачываць вам не давядзецца. Не таму, што мне гэтак хочацца, не таму што гэта мой капрыз. Неабходнасць прымушае нас працаваць, не губляючы ніводнай гадзіны. Чаму? Зараз растлумачу. Мы з вамі добра завяршаем

(Працяг на стар. 10).



© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

## *РЭХА ФЕСТЫВАЛЮ «РАМПА ДРУЖБЫ-88»*

# Выпадковасць?.. Заканамернасць?..

НА ЗАКЛЮЧНЫМ «круглым стале» «Рампы дружбы-88» у Гродне разгарэлася спрэчка, якім фестываль павінен быць увогуле — конкурсам, аглядам дасягненняў тэатральнай самадзейнасці, творчым семінарам для ўдзельнікаў ці святам. Безумоўна, да такой з'явы культурнага жыцця нельга ставіцца адназначна. Ад сустрэчы з ім кожны чакае выключнага, адметнага, і, магчыма, менавіта ад гэтага застаецца ў нечым расчараваным.

**Мне здаецца, што ў самім вызначэнні «фестываль» ёсць адказ на многія прэтэнзіі. Гэта — свята. Свята знаёмстваў, спаборніцтва і супрацоўніцтва. Бо менавіта створаная гродзенцамі і арганізатарамі абстаноўка адыграла сваю станоўчую ролю, настроіла ўдзельнікаў і гасцей «Рампы» на высокую эмацыянальную хвалю. Свята планавалася — свята адбылося. Пытанне сёння ў іншым — у яго творчых выніках, а яны даволі супярэчлівыя.**

**Фармальна беларускім аматарам можна быць задаволенымі. Народныя тэатры Краснапольскага і Баранавіцкага дамоў культуры ўдастоены спецыяльных прызоў, добра ацэнены крытыкамі, рэжысёрамі, удзельнікамі, гледачамі. Але дзеля аб'ектыўнасці варта адзначыць: ва ўсіх гэтых ацэнках гучалі ноткі паблажлівасці і менавіта яны прымусілі паразважаць пра стан тэатральнага жанру мастацкай самадзейнасці рэспублікі.**

Каля 4 тысяч драматычных гурткоў і калектываў, 92 тэатры ўдастоены звання «народны» — лічбы пераканаўчыя і, здавалася б, патэнцыяльныя магчымасці аматарскіх калектываў самі па сабе значныя. Але практыка якраз сведчыць пра сціплыя вынікі і мізэрны запас сіл. Успомнім першую дэкаду самадзейнага тэатральнага мастацтва ў канцы мінулага года, якая, па сутнасці, была заключным этапам адбору кандыдатаў на міжрэспубліканскі фестываль. Да яе пачатку было сказана шмат гарачых слоў і на лабараторыі рэжысёраў народных тэатраў, і ў ходзе дыскусіі на старонках «ЛіМа» — аб неабходнасці шырокага абмеркавання спектакляў-прэтэндэнтаў, аб неаб'ектыўнасці папярэдніх адбораў.

І вось — дэкада. Дарэчы, на яе былі накіраваны лепшыя калектывы на падставе прапаноў абласных упраўленняў культуры. Яна паказала і невысокі ўзровень рэжысуры, і недахоп выканаўчага майстэрства, і закасцянеласць методыкі, і беднасць рэпертуару — у першую чаргу, нацыянальнага, які быў «залатым ключыкам» ад дзвярэй мінулай «Рампы». Так што з пункту гледжання прапаганды беларускай драматургіі рэальна прэтэндаваць на ўдзел у ёй маглі толькі некалькі калектываў — Мазырскі, Маладзечанскі, Слуцкі, Слонімскі, Краснапольскі, Хойніцкі народныя тэатры, «Жывое слова» Мінскага педінстытута, «Летуценнікі» Белдзяржуніверсітэта, гомельская «Жалейка» і «Мотальскія суседзі» з Іванава. Потым прайшоў яшчэ адзін тур, і на падставе прапаноў адборачнай камісіі, якая перагледзела і абдумала кожную работу, арганізацыйны камітэт фестывалю прыняў рашэнне пра ўдзел у конкурсе двух спектакляў — «Вечар» А. Дударава народнага тэатра Краснапольскага РДК і «Конскі партрэт» Л. Родзевіча ў пастаноўцы народнага тэатра ГДК з Баранавічаў.

**Гэтыя спектаклі не сталі на «Рампе» падзеямі, як не сталі імі ўвогуле выступленні савецкіх калектываў. Сучасная тэатральная стылістыка, прадэманстраваная «Z»-тэатрам сяла Зяленіч з Чэхаславакіі, аказалася непераўзыдзенай. Але мы маем права ганарыцца тым, што выканаўцы галоўных роляў — Мульціка (В. Ермаловіч) у «Вечары» і Гаспадыні (С. Кургузава) у «Конскім партрэце» сталі ўладальнікамі прызоў за лепшае выкананне мужчынскай і жаночай роляў, Краснапольскі тэатр удастоены прыза Таварыства венгера-савецкай дружбы за ўвасабленне ідэй міру і гуманізму, а Баранавіцкі — спецыяльнага прыза за першую пастаноўку п'есы. Безумоўна, крытэрыі спаборніцтва на фестывалі былі крыху заніжаны з-за адсутнасці Гран-пры, да таго ж, кожны калектыў-удзельнік быў адзначаны тым ці іншым прызам. Але неафіцыйнае апытанне грамадскай думкі вызначыла лідэрства ў конкурсе наступным чынам: у шматактовай і аднаактовай драматургіі лепшымі аказаліся пасланцы Эстоніі — народны тэатр Палаца культуры імя В. Герасімава з Нарвы і народны тэатр «Кяпік», у шматактовай драматургіі перавага аддадзена спектаклю Мадонскага народнага тэатра Латвійскай ССР, у аднаактовай — нашаму баранавіцкаму калектыву, які, як адзначалі члены журы і крытыкі, «бліжэй за ўсіх падышоў да народнай манеры выканання».**

У цэлым фестываль паказаў, што ў аматарскім тэатральным руху справы не зусім добрыя. Тэатры размаўляюць з гледачом састарэлаю сцэнічнаю моваю, трымаюцца старой мадэлі. «Рампа дружбы» да краёў была запоўнена фальклорам і этнаграфіяй (прычым не толькі сіламі тэатральных артыстаў, а і ўдзельнікамі харавых і харэаграфічных калектываў Гродна). Гэта і «Тры любімыя» тэатра Гумна вёскі Аглуоненай Літоўскай ССР, і «Дні шаўцоў у Сілмачах» Мадонскага народнага тэатра (Латвія).

Сённяшнія памкненні ўдзельнікаў калектываў зразумелыя. Фальклорныя традыцыі бессмяротныя, а зараз і досыць актуальныя. Бо невыпадковым быў страсны заклік М. Макарцова — рэжысёра Гомельскага фальклорна - этнаграфічнага тэатра «Жалейка» са старонак «ЛіМа» — да паўсюднага стварэння аналагічных труп. Але стаўка на фальклор не апраўдалася, і не толькі таму, што гэтыя спектаклі аказаліся штучна вырванымі з уласнага, натуральнага асяроддзя. Гледачы прагнулі вастрыні, сучаснасці, публіцыстычнасці. Вось чаму так высока быў ацэнены нарвскі спектакль «Балота» і адзначаны наватарскі пошук тэатра Двара Вільнюскага універсітэта ў п'есе «Паняцце Гамлета». А мапасанаўская «Пышка» і брэхтаўская «Матухна Кураж» у пастаноўцы Ю. Бяднарыка ўвогуле сталі апафеозам фестывалю. Менавіта гэты поспех замежных гасцей абудзіў у многіх думку пра адметнасць паняцця нацыянальны тэатр, пра перспектывы аматарскага тэатра. Жыццё прымушае ўдасканальваць палажэнне пра «Рампу дружбы», прынятае амаль дваццаць год назад.

Фестываль яшчэ раз прадэманстраваў не столькі адсутнасць сучаснай драматургіі, колькі недахоп магчымасцей у аматарскіх тэатраў для яе рэалізацыі. Той самы Краснапольскі тэатр бярэцца за пастаноўку п'есы А. Дударава, як вядома, папулярнай на прафесійнай сцэне. Але бяда ў тым, што сіл хапае толькі на вызначэнне праблематыкі, агаленне паверхневага пласту п'есы без вылучэння падтэкстаў і другіх планаў.

Наконт нацыянальнага рэпертуару...Творы на злобу дня ёсць. Можна назваць імёны драматургаў, якія актыўна пішуць для мастацкай самадзейнасці, але абмяжуюся тым, што нагадаю лаўрэатаў мінулагодняга рэспубліканскага конкурсу на стварэнне аднаактовых п'ес і твораў клубнай драматургіі: В. Ткачоў («Стары і дарога»), Л. Караічаў («Апанаванасць»), Г. Марчук («Паводка»), М. Капыловіч («Чужы сваяк»). У свой час іх творы былі добра разрэкламаваны, даведзены да ведама калектываў, але вось мінуў год — і ніводнай заяўкі. Можна і правамерна папракаць работнікаў метадычных службаў і Міністэрства культуры рэспублікі ў тым, што яны слаба працуюць з самадзейнымі тэатрамі, і ў той жа час трэба гаварыць пра тое, што ў гэтым няма зацікаўленасці саміх мастацкіх кіраўнікоў. Куды прасцей і спакойней цягнуцца ў хвасце прафесійнага тэатра, дубліраваць чужыя знаходкі... Па пальцах можна пералічыць рэжысёраў, якія бяруць на сябе смеласць першай пастаноўкі п'есы, а менавіта ж яна ў многіх выпадках забяспечвае поспех. Пацвярджэнне таму — Гран-пры «Рампы дружбы-86» Мазырскаму народнаму тэатру, званні лаўрэатаў II Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці Маладзечанскаму, Слонімскаму і іншым калектывам. Ёсць нават нейкая заканамернасць у тым, што менавіта ў гэтых тэатрах саспелі ўмовы для правядзення эксперыменту, пераходу на гаспадарчы разлік.

**Два апошнія гады былі насычаны дыскусіямі аб перспектывах развіцця беларускага аматарскага тэатра, прычым ухіл рабіўся на яго арганізацыйную структуру, прынцыпы гаспадарання і самакіравання, а асэнсаванне творчых працэсаў засталося ўбаку. «Рампа дружбы» прымусіла вярнуцца да гэтага зыходнага пункта. Няважна, у якой форме будзе ажыццяўляцца дзейнасць тэатра, першаступеннае значэнне мае яго пазіцыя, мова, на якой ён размаўляе з гледачом.**

Пачаўся III Усесаюзны фестываль народнай творчасці. Мяркуецца правядзенне раённых, гарадскіх, занальных, абласных, рэспубліканскіх усесаюзных мерапрыемстваў. У 1989—1990 гадах пройдзе рэспубліканскі агляд тэатральнага мастацтва, у якім возьмуць удзел калектывы ўсіх накірункаў, жанраў, дзіцячыя і маладзёжныя, а ў горадзе Бабруйску мяркуецца правядзенне рэспубліканскага тэатральнага свята.

У рамках III Усесаюзнага фестывалю будзе праходзіць і «Рампа дружбы-90» у Літве. Які ўдзел возьмем мы ў ёй?

**Святлана ЦІВАНАВА,**
**рэдактар рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі ўпраўлення культасветустаноў Міністэрства культуры БССР.**

Сцэна са спектакля «Падарожжы Гулівера». Дублінскі маладзёжны тэатр (Ірландыя).

На адкрыцці «Рампы дружбы-88». Парад удзельнікаў.

# НОЕЎ КАЎЧЭГ

(Працяг. Пачатак на стар. 8—9).

гаспадарчы год. Своечасова і без страт сабралі прыстойны ўраджай і здалі яго дзяржаве на патрэбу фронту, для харчавання нашай доблеснай Чырвонай Арміі. Чым лепей мы накормім нашых байцоў, тым хутчэй яны даб'юць фашысцкую сволач. Дык вось. Мы з вамі падпісалі ўмову на працоўнае спаборніцтва з іншымі лагернымі пунктамі нашага сельгаса. І мы з вамі абавязкова яе выканаем. Гэта вельмі добра, ды не зусім. Ранняя зіма захапіла нас знянацку. Снегам пакрыла шэсць гектараў несабранай капусты. Зразумела? І вось яна пад снегам. Камандаванне лагера падарыла нам гэту капусту. Калі мы дастанем яе з-пад снегу, можна будзе расходаваць яе, як захочам. Ясна? Мы зможам дабаўляць яе ў катлы звыш дазволенага нам пайка. Я ведаю, што гэта цяжка, асабліва ў летняй вопратцы, але што зробіш? Трэба, разумееце, трэба! Гэта паляпшэнне вашага харчавання. Разбіцца ў дошку — а вырваць капусту з-пад снегу і засаліць. Холадна? Ведаю. Я даў загад падвезці дровы для вогнішчаў. Грэцца, толькі без дрымоты. Да сёмага лістапада засталося паўтара тыдня. Праз пару дзён прывязуць новае зімовае абмундзіраванне. Я яго ўжо адабраў. Цёплыя бушлаты, шапкі, валёнкі, ватовыя штаны і целагрэйкі. Праз пару дзён усе будзеце апрануты. На свята даю тры дні адпачынку, а вы ведаеце, што я сваё слова трымаю моцна. Ідзіце на гарод і ратуйце капусту. Дарога туды ўжо прабіта. У зоне застаюцца толькі днявальныя і кухары. Астатнія ўсе да адзінага чалавека — на гарод.

Глыбокім маўчаннем сустрэлі рабацягі прамову начальніка, ды і што скажаш? Мітынгаваць не будзеш, тут не дазволена.

— Пампапрацы! Выводзьце людзей! — падаў Багрын каманду.

Шырока адчыніліся вароты. Выходзілі пабрыгадна, пяцёркамі.

— Першая! Другая! А ну жывей!

— Трэцяя! Чацвёртая!

Манатонна, як завучанае «ойча наш», мармытаў начальнік канвою традыцыйнае папярэджанне:

— Крок направа, крок налева лічым уцёкамі... страляем без папярэджання.

— Ведаем, ведаем! — крычалі рабацягі. — Далей зоны не пабяжым.

— Ну і закруціў наш Багор пятрушку! Паабмарозімся, як цуцыкі галахвостыя... без рукавіц.

— Чаво ныеш... раней смерці паміраць сабраўся...

— Нічцяк, хлопцы! Пад Ленінградам у блакадзе горш даводзілася, а ўсё ж пражылі. Не дрэйф!

— І то праўда! — пагаджаліся беларусы. — Пражылі лета гарачае, пражывём і г... сабачае.

Акружаныя канвоем рабацягі ішлі па прабітай у снягах дарозе, як у глыбокай франтавой траншэі. На фоне чыстага, белага, снежнага поля здалёк мроілася, быццам сотні галоў у шапках, кепках, пілотках, картузах і капелюшах бязгучна слізгацяць па роўнядзі, скочваюцца ўніз, да спадзістага берага чорнай, яшчэ не застылай Лены. Па рацэ з самотным шоргатам павольна ішоў, гойдаўся на лёгкай хвалі асенні шарош. Зрэдку праплывала адарваная ад берагоў тонкая ільдзіна, вострыя беражкі якой зіхацелі на сонцы, магутная плынь несла яе ў далёкае сцюдзёнае мора. Проста па фарватэры спяшалася ў зімовы затон самаходная баржа. Хаатычна нагрувашчаныя цёмныя гальцы на правым беразе, свінцовая, амаль што чорная шырокая рака і бяскрайнія снягі рабілі цяжкае ўражанне, прыгняталі. Нават яркае сонца не здолела зняць панурасць гэтага прыгожага дзікага краю.

...Не паспеў яшчэ канвой паставіць тычкі забароненай зоны, як брыгады ўжо разбіліся на звенні і ўзяліся за работу. Па ўсім заснежаным гародзе, ад самай дарогі ажно да берага Лены, у розных месцах увінціліся ў неба чорныя спіралі дымных вогнішчаў. З шыпеннем і трэскам шуганула чорнабарвовае полымя вялікага вогнішча, пырснула ва ўсе бакі густым россыпам дробных іскрынак, усыпала, нібыта макам, бялюткасць першага некранутага снегу.

— Шуруй, брацішкі, сухія дравішкі. Падстаўляйце пузы, сагравайце кішкі.

Аднак не выпадае рабацягам падстаўляць да агню пуза. Шчыльнай сцяной акружылі уркі-законнікі вогнішчы. Грэліся са смакам, з камфортам, з дрымотай. Па-звярынаму рыкалі на рабацяг.

— Гэй ты, мужык! Чыво прыліп да агню. А ну кенай адсюль, пакуль я табе па кумпалу не трэснуў. Ідзі ўкалывай, падлюка!

Баязліва і пакорліва адыходзіліся рабацягі прэч. Ведалі: ім грэцца не дазволена. Яны фраеры, яны не належаць да выбранай касты «людзей» з блакітнай крывёю. Самы маленькі пратэст, самая маленькая праява пачуцця чалавечай годнасці маглі абысціся ім дорага. І таму рабацягі маўчалі.

Дзьмуў лёгкі, але досыць пранізлівы вецярок, па-тутэйшаму «хіус». Ён забіраўся пад старую, зношаную адзе-



© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

# З АПЛАДЫСМЕНТАМІ ПАЧАКАЕМ

«Рампа дружбы» з кожным годам заваёўвае ўсё больш прыхільнікаў, у ёй бярэ ўдзел усё больш краін, што плённа ўплывае на развіццё аматарскага тэатра. Зрэшты, павінна было б уплываць. Але ці апраўдаў лепшыя спадзяванні і чаканні сёлетні агляд? Пра гэта якраз і хацелася б пагаварыць.

**Што нельга не адзначыць адразу, дык гэта вялікую арганізацыйную работу аргкамітэта «Рампы» на чале з яго старшынёй У. Гілепам. Невыпадкова кранаюся гэтага, здавалася б, не творчага пытання, бо ведаю і іншыя прыклады правядзення такіх прадстаўнічых аглядаў. Скажам, у арганізацыі першага фестывалю, які праходзіў у Мінску ў 1978 годзе, ніякай... арганізацыі не было. У той час я ўзначальваў Слуцкі народны тэатр і адчуў гэта, можна сказаць, на ўласнай скуры. Аб тым, што наш спектакль па п'есе Б. Васільева «У спісах не значыўся» выносіцца на прадстаўнічы агляд, мы даведаліся толькі за тры тыдні да пачатку «Рампы». Што рабіць? Чэрвень, самы час водпускаў, як адшукаць і сабраць артыстаў? Неяк выкруціліся, хоць, пакуль круціліся, было зусім не да рэпетыцый. Няўвязкі працягваліся і ў Мінску. Палац культуры і спорту чыгуначнікаў імя Ільіча быў толькі што здадзены будаўнікамі і, вядома, не падрыхтаваны як след, каб прымаць фестывальныя спектаклі. Не давялі да ладу сцэну, не ўсё было добра з асвятленнем. А ў выніку давялося нашаму калектыву расплачвацца сваёй рэпутацыяй.**

**Добра, што такая «арганізацыйная работа» адышла ў нябыт. Згадаю 1984 год, калі «Рампа дружбы» прапісалася ў Рызе, на якой Маладзечанскі народны тэатр паказваў спектакль па п'есе А. Дударава «Радавыя» і атрымаў пяць дыпломаў. Умовы там былі створаны адпаведныя, і ведалі мы пра фестываль загадзя і маглі падрыхтавацца да яго належным чынам. «Рампа-84» і запомнілася тым, што стала сапраўдным святам Тэатра, святам Душы і Дружбы. Быў проста цудоўны сцэнарый правядзення агляду, цудоўнейшая рэжысура — тое, чаго, на жаль, не назіралі на «Рампе» ўжо некалькі гадоў запар, калі на розных мовах, дыялектах ішоў абмен думкамі да позняй ночы.**

Чаму я згадваю мінулыя фестывалі? Ды таму, што з кожнай чарговай сустрэчай узрастае трывога за творчы ўзровень «Рампы дружбы», з'яўляецца адчуванне, што свята радасці творчасці, адкрыццяў адыходзіць. Размываюцца крытэрыі ацэнак спектакляў, што вылучаюцца ад рэспублікі, складваецца ўражанне, быццам існуе нейкая агульная чарга. Вы з правінцыі? Добра. У вас юбілей? Ага, разумеем.

Узнікае пытанне: можа, хопіць ужо фестываляў і дэкад, на якіх узнагароджваюцца амаль усе калектывы, незалежна ад іх узроўню, майстэрства? Сёлета ж у Гродне здарылася так, што колькасць прызоў і дыпломаў наогул перавысіла колькасць тых, хто варты ўзнагарод. У такой сітуацыі журы пачало «вынаходзіць», каму і якую ўзнагароду даць. Гэтаму — «за распрацоўку тэмы», таму — за «вырашэнне тэмы» і г. д.

Трэба шчыра прызнаць, што россыпы феерверку над Нёманам не сталі россыпам адкрыццяў і ўзрушэнняў на сцэне. Час зразумець, што фестывалі тыпу «Рампы дружбы» немагчымы без пошуку новых выразных сродкаў. Фестываль аматарскіх калектываў павінен быць мераю нашай любові і адданасці тэатру.

Трэба перагледзець і палажэнне аб «Рампе». Усе калектывы, якія прэтэндуюць на ўдзел у ёй, павінны памятаць, што гэты фестываль — сур'ёзны экзамен на творчую сталасць. Значыць, будучае свята «закладваецца» дома. Адборачная камісія таксама павінна ведаць, прытым дакладна, сапраўдныя магчымасці кожнага народнага тэатра ў рэспубліцы. Выбраць, напрыклад, дзесяць ці пяць тэатраў, з іх вылучыць два-тры прэтэндэнты і даць ім магчымасць падрыхтавацца да «Рампы».

Прыгадваецца колішняя лімаўская гаворка аб нявырашаных праблемах у аматарскім тэатры. У ёй, поруч з іншым прагучала і прапанова аб стварэнні рэспубліканскага савета рэжысёраў з далучэннем да яго прадстаўнікоў ЦК камсамола, міністэрстваў культуры і народнай асветы, а таксама СТД і РНМЦ, каб гэты савет каардынаваў усю работу аматарскага руху. Думка, бадай, слушная. Савет вызначаў бы лепшы спектакль і лепшыя ролі сезона, ён не толькі актывізаваў бы творчы працэс, але і ведаў бы ўсе беды тэатра. Заадно савет праводзіў бы і адбор кандыдатаў на «Рампу», іншыя фестывалі і агляды.

Сёння ж па-сапраўднаму намі ніхто не займаецца. Маўляў, чым бы чалавек ні займаўся — абы занятак сабе меў. Такое стаўленне да народнага тэатра, такое разуменне яго, як чыстае аматарства, — пазіцыя ўчарашняга дня!

Перакананы, што канферэнцыя — у рамках «Рампы» — у Гродне толькі выйграла б, калі б і на ёй папрысутнічалі прадстаўнікі аддзела культуры ЦК Кампартыі рэспублікі. Магла б адбыцца сур'ёзная гаворка аб праблемах развіцця аматарскага тэатра.

І яшчэ адно. Закончыўся II Усесаюзны фестываль народнай творчасці. А што даў ён? Якія яго вынікі? Тое, што мы сталі лаўрэатамі? Гэта прыемна, ды толькі не адзінаю славаю жыве чалавек. Рабочы ці служачы, прыходзячы на рэпетыцыю ў народны тэатр, павінен адчуваць, што яго праца тут неабходна людзям, што яго талент выклікае павагу ў дырэктара прадпрыемства, сакратара партыйнай арганізацыі, майстра, што яго, артыста, без просьбы і падказкі вызваляць пад час рэпетыцый ці спектакля ад другой змены. На жаль, такое стаўленне з боку адміністрацыі да свайго артыста, а, значыць, і да свайго тэатра, вельмі рэдкае.

Вось прыклад з нашага ўласнага жыцця. На адзін са сходаў калектыву былі запрошаны адказныя таварышы. Гаворка зайшла аб нашых планах, умовах работы, праблемах гледача. Кіраўнічы таварыш, які курыруе культуру, на просьбы адказваў няўцямна. Высветлілася, што ён не быў ні на адным нашым спектаклі. Колькі ні запрашалі, усё не знаходзіў вольнага часу!

Колькі такіх чыноўнікаў можна сустрэць яшчэ і сёння. Ці не яны правалілі летась дэкаду аматарскага тэатра ў Маскве? Нам яшчэ пашанцавала, бо мы адкрывалі дэкаду: выступалі ў памяшканні Тэатра імя М. Ярмолавай, сабраліся гледачы, ды і прыехалі мы на сваім аўтобусе. Іншыя ж калектывы суткамі чакалі на вакзале, пакуль іх забяруць з дэкарацыямі і завязуць у гасцініцу. Арганізацыяй дэкады, што праходзіла ў рамках II Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, займаўся адзін з аддзелаў ВЦСПС.

Амаль на гэткім узроўні прайшла дэкада аматарскага тэатра і ў Мінску. Мазырскі тэатр не змог паказаць свой спектакль у памяшканні купалаўцаў, бо ў прызначаны дзень зала была занятая. Нам са спектаклем па драматычнай паэме В. Коўтун «Суд Алаізы» адмовілі ў выступленні ў Палацы культуры Белсаўпрофа. З дзевяці раніцы да 16 гадзін артысты сядзелі ў аўтобусе, а ў палацы праводзіліся запланаваныя раней мерапрыемствы. Пашанцавала хоць «Радавых» напярэдадні паказаць у памяшканні тэатра імя М. Горкага.

**...Пачаўся III Усесаюзны фестываль народнай творчасці. З аднаго боку радуе, што такія прадстаўнічыя агляды становяцца традыцыяй. Але ці быў святам папярэдні II Усесаюзны фестываль? Калі і дзе ва ўрачыстай абстаноўцы калектывам уручаліся дыпломы, каштоўныя падарункі, прызы і г. д.? Адразу пасля спектакля, як на кінафестывалях, а не праз паўгода, калі ўсё ўжо забылася, і рэжысёру ледзь не самому даводзіцца ўручаць узнагароды свайму калектыву? Па-ранейшаму квітнеюць фармалізм і казёншчына. Папярэдні фестываль, можна сказаць, прайшоў дзеля славутай «птушачкі».**

**Не магу не закрануць і архіважнае пытанне кадраў у культуры. Вядома, працуе ў ёй шмат самаахвярных, апантаных людзей, але ж нямала і выпадковых, спіхнутых сюды з ранейшага месца работы за розныя хібы і пралікі. Ведаў аднаго з такіх дзеячаў культуры. Двойчы ён быў загадчыкам тэлеатэлье, двойчы загадчыкам аддзела культуры, потым зноў загадчыкам тэлеатэлье. Каб жа толькі гэта быў адзіны прыклад.**

**Культура ж — тут я не раблю адкрыцця — у працэсе абнаўлення нашага грамадства выконвае важную ролю. Асабліва тэатр, як сінтэтычны від мастацтва. Аднак аматарскія тэатры па-ранейшаму часта знаходзяцца ў крытычным стане. Перакананы, што неабходна ўрэшце вырашыць і праблему навучання акцёра-аматара сцэнічнаму мастацтву, гэтым павінен займацца прафесійны педагог і на самым высокім узроўні; што тэатр не можа і не павінен жыць без дзяржаўнай датацыі, — каб працаваць сумленна, плённа, спакойна, без нервознасці, не спакушацца танным рэпертуарам, а рыхтаваць высокамастацкія спектаклі.**

Мне заўсёды вусцішна на душы, калі гаворка заходзіць не аб пошуку новага, не аб рэпертуары, не аб пазіцыі рэжысёра, а пра заробленыя тэатрам грошы. І калі даведваешся, за кошт чаго, якім рэпертуарам гэтыя грошы здабыты, становіцца не па сабе. Стварэнне тэатра-студыі — гэта не стварэнне кааператыву па вырабе бразготак. Тэатр-студыя апраўдвае сваё прызначэнне, калі ўзнікае натуральным шляхам, на глебе грамадскай патрэбнасці, зацікаўленай увагі з боку партыйных і савецкіх органаў. Калі мы ўзнімем ідэйна-мастацкі ўзровень усіх народных тэатраў, тады з'явяцца і сапраўдныя тэатры-студыі.

Чым закончыць гэтыя развагі? На якой ноце? Хочацца верыць у наша творчае братэрства.

**М. МАЦКЕВІЧ,**
**рэжысёр Маладзечанскага народнага тэатра.**



Сцэна са спектакля «Чараўнік Оз». Венгерскі тэатр «Фартуна».

жу, апякаў холадам цела, прымушаў людзей выбіваць зубамі дробную чачотку. Падагнаныя больш холадам, чым брыгадзірамі, зэкі працавалі дружна і напорыста. Вялікія качаны на дзіва ўдалай капусты ўкладваліся ў бурты. Заліхвацкі, з пасвістам падлятаў па зімніку на парных санях возчыкі, нагружалі глыбокія (з бартамі) кузавы капустай і імчалі на засолачны пункт да сховішча для гародніны.

Ажыў, зазвінеў, загаманіў бераг угрум-ракі Лены, расквітнеў чырвонымі цюльпанамі вогнішчаў, напоўніўся жыццём і заклапочанай мітуснёй. Распалілі рабацягі і свае невялікія «фраерскія» вогнішчы.

...Часта ў жыцці бывае гэтак: не пашанцавала чалавеку ў адным — пашанцуе ў другім, не пафарціла ў трэцім — пашчасціць ў чацвёртым. Глядзіш: сышліся канцы з канцамі. Жыць можна і, дзякуй богу, нават няблага, але... гэтак бывае там, па той бок дроту, на волі. Зусім інакш усё ідзе ў лагеры, у зняволенні. Калі табе не пашанцавала ў адным — будзь гатовы: не пашанцуе і ў другім, і ў трэцім, і ў чацвёртым. Адным словам, прывалiла бяда, адчыняй вароты: пасыплюцца на тваю галаву няшчасці адно за адным, толькі паспявай ухіляцца. Гэтак было і з Корзунам. Атрымоўваў ён даволі рэгулярна пасылку з дому. Як ужо там перабівалася сям'я, адзін бог ведае, але пасылку яму раз у тры месяцы прысылалі, і досыць шчодрую. Было ў ёй усяго пакрыху: цыбуля, часнок, пара-другая колцаў сялянскай каўбасы і добры кавалак сала з тонкімі ружовымі прожылкамі мяса, з кменам.

— Вітамін цэ... масла ды сальцэ, — зайздросліва жартавалі таварышы па брыгадзе, глытаючы галодную сліну. Праўда, амаль тры чвэрці пасылкі Корзун неадкладна «дарыў» пампапрацы, нарадчыку і яшчэ сяму-таму з «сильных мира сего». А як жа інакш? Не дасі ў «лапу», г. з. хабар, загоняць на самую цяжкую працу, будуць прыдзірацца з-за ўсякай дробязі, без дай прычыны, і за некалькі месяцаў давядуць цябе да «драўлянага бушлату». А вось калі ў лапу даў — іншы каленкор атрымоўваецца. І праца для цябе лягчэйшая, і прыдзірак аніякіх. Корпайся сабе па-старэчы ці то ў сховішчы для гародніны, ці то на сушылцы, а то і кубагрэем у кубавой. Цягай ваду, грэй кіпяток, і нікому да цябе справы няма. Раскоша! Самая што ні ёсць «блатная» рабацёнка, старэчая. Ды вось трэба ж было бядзе зваліцца. Затрымалася недзе ў дарозе чарговая пасылка. І пісьмы з дому прыйшлі, і паштальён гаварыў, што пасылка прыбыла, ляжыць на складзе ў праўленні лагера, а Корзуну яе не прыносяць. Няма пасылкі — няма што тыцнуць у лапу лагернаму начальству. А калі гэтак, дык няма табе і блатной рабацёнкі.

— Корзун! Заўтра на развод выходзь з брыгадай Даўгаполава. Сіласныя ямы капаць.

Пярэчыць дарэмна. Каму якая справа, што табе пяцьдзесят восем год? Земляная праца не па сілах? А каму яна па сілах? Норма вялікая? Ну і што?..

— Укалывай, падлюка! Капай глыбей, кідай далей! Давай кубікі, калі не хочаш «даплыць» на трохсотцы.

І давялося «ўкалываць», са слязьмі, выбіваючыся з апошніх сіл, каб даць норму і за сябе і за «блатароў». Трэба ж некаму за іх працаваць. Не паспеў Корзун ад першай бяды ачомацца — другая наляцела. Абакралі яго начыста. Валёнкі, анучы, сподняе нібы карова языком злізнула. Быццам і не было нічога. Шукаць і не думай. Ды хіба знойдзеш? А тут, як на беднага Макара, новая бяда звалілася. Ранняя зіма з паўночных мораў прыкаціла. Выкараскаўся ён і з гэтай бяды з грэхам напалам: купіў за махорку анучы. Здавалася, абыдзецца. Дык не. Сапраўды сказана: дзе тонка, там і рвецца. Раскаціліся на ўхабіне сані, гружаныя капустай, перакуліліся і збілі Корзуна з ног. Паляцеў ён у закінутую сіласную яму. Трэснуў тонкі лядок — і апынуўся Корзун у ледзяной вадзе вышэй за калені. А гэта ўжо не бяда, гэта няшчасце. Пакуль таварышы падалі яму жэрдку, пакуль дапамаглі вылезці з ямы, тонкі лядок, як броня, пакрыў няўклюдныя корды і мокрыя ватныя нагавіцы.

— Бяжы сушыся ля вогнішча, ногі адмарозіш!

Ля вогнішча... Лёгка сказаць! Ці ж абсохнеш ля «фраерскага» вогнішча, ад якога ніякага цяпла, а толькі чадзіць гаркавы дымок? А да вялікага, ярка палаючага вогнішча падысці нельга. Там жа уркі, там «людзі» сядзяць, грэюцца з дрымотай.

— Куды прэшся, мужык! А ну, ураматывай! — не сказалі, а загірчэлі злосна, па-звярынаму.

— Ды я... я... на хвілінку толькі... закурыць хацеў.

Убачылі ў пасінелых руках Корзуна вялікі кісет з махрой — адразу перамянілі пласцінку.

— Садзіся сюды, папаша. Бліжэй да агеньку.

— Ты, пахан, скінь корды і штаны, — сіпеў «праступджаным» ад застарэлага сіфілісу голасам Васёк Калыма. — Усё скідвай і сушы. Дай-ка сюды кісет... закурым.

(Працяг на стар. 12).



© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

**Працягваецца святкаванне 1000-годдзя хрышчэння Русі. Пасля юбілейных урачыстасцяў у Маскве, Кіеве, Уладзіміры і Ленінградзе свята прыйшло і на зямлю нашай рэспублікі, у сталічны Мінск, у праваслаўныя прыходы Беларусі. Гэтая падзея прыцягвае ўвагу не толькі веруючых праваслаўнага веравызнання, але і ўсіх, хто неабыякавы да айчыннай гісторыі і культуры. Пра гэта, дарэчы, сведчыць увага да юбілею цэнтральнай і рэспубліканскай прэсы. Не засталася ўбаку і наша газета. Апошнім часам мы змясцілі артыкул «Хрысціянізацыя Русі і беларуская культура» (№ 25, 17. VI) і фотарэпартаж «Свет за манастырскаю сцяною» (№ 27, 1.VII). Сёння публікуем гутарку нашага карэспандэнта П. Васілеўскага з протаіерэем Мінскага кафедральнага сабора айцом Яўгеніем ГРУШЭЦКІМ.**

# НА НІВЕ МІРАТВОРСТВА, МІЛАСЭРНАСЦІ, АСВЕТНІЦТВА

**— Айцец Яўгеній, сёлетнія падзеі, безумоўна, увойдуць у гісторыю хрысціянства, асэнсоўваць іх будзе не адно пакаленне багасловаў, гісторыкаў, сацыёлагаў. Аднак, мабыць, можна падвесці і папярэднія вынікі святкавання 1000-годдзя хрышчэння Русі?**

— Маштабы святкавання пераўзышлі нашы чаканні. Гаворачы пра Рускую Праваслаўную Царкву (РПЦ), мы, зразумела, укладаем у гэтую назву не этнічны сэнс. РПЦ — гэта памесная царква ў Расійскай Федэрацыі, Беларусі і на Украіне і каля 30 прадстаўніцтваў за межамі Саюза ССР — у ГДР, Францыі, Галандыі, Японіі, іншых краінах. Мы, святары Рускай Праваслаўнай Царквы, прадчувалі, што наша свята непазбежна адгукнецца ў сэрцах усіх веруючых, усіх, каму дарагі ідэалы чалавекалюбства, міласэрнасці. Мы былі ўпэўнены, што яно будзе мець глыбокі патрыятычны сэнс, абудзіць у многіх грамадзян нашай краіны найлепшыя пачуцці, дасць магчымасць асэнсаваць сваю далучанасць да вялікай гісторыі, да вялікай ідэі.

Тым не менш па меры набліжэння святкавання 1000-годдзя хрышчэння Русі пачалася паласа прыемных нечаканасцей. Мы пачалі атрымліваць пасланні ад мноства абшчын, у тым ліку і нехрысціянскіх — мусульманскіх, будысцкіх, іудаісцкіх, ад грамадскіх арганізацый аб магчымасці прыняць удзел ва ўрачыстасцях. Напярэдадні адкрыцця Памеснага Сабора (6 чэрвеня) стала зразумелым, што святкаванне выйшла далёка за межы нацыянальнай падзеі, набыло ўсеагульны, усепланетарны маштаб. Уся планета малілася разам з намі за існаванне хрысціянства на рускай зямлі, дзе яно зацвердзілася тысячу год назад, дзякуючы падзвіжніцтву раўнаапостальнага вялікага князя Уладзіміра. У нашу краіну на свята прыехалі госці з усяго свету.

У сувязі з гэтым хачу прыгадаць словы архіепіскапа з Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі Дэсмана Туту. Ён гаварыў пра тое, што хрысціяне Афрыкі моляцца, каб Руская Праваслаўная Царква развівалася ў адпаведнасці са сваімі асноваызначальнымі прынцыпамі ва ўмовах гарантаванай дзяржавай свабоды сумлення.

**— Чым вы тлумачыце сусветны рэзананс урачыстасцяў, звязаных з 1000-годдзем хрышчэння Русі?**

— Тут шэраг прычын. Калі суаднесці 1000-годдзе хрышчэння Русі з адпаведнымі юбілеямі балгарскай і польскай цэркваў, дык адразу адчуваецца розніца ў маштабах святкавання. Тыя юбілеі, па сутнасці, былі нацыянальнымі святамі, не перайшлі граніц Балгарыі і Польшчы.

Планетарны рэзананс, які выклікала наша свята, я асабіста тлумачыў бы самабытнасцю рускай культуры. Народ старажытнай Русі стварыў шэдэўры дойлідства, іканапісу, дэкаратыўнага мастацтва, літаратуры. А ў аснове — царкоўны пачатак, руская святасць, міратворнасць. І культуру Расіі больш позніх часоў немагчыма па-сапраўднаму асэнсаваць, калі выключыць з яе хрысціянскую мараль, праваслаўную ідэю. Без яе няма такіх пісьменнікаў, як Фёдар Дастаеўскі і Леў Талстой, такіх мастакоў, як Аляксандр Іванаў і Міхаіл Несцераў. А без гэтых імёнаў, у сваю чаргу, нельга ўявіць і рускую і сусветную культуру.

Другі аспект, які спрыяў шырокаму міжнароднаму рэзанансу 1000-годдзя, гэта тая роля, якую адыгрывае наша краіна ў сусветнай палітыцы. Адзін італьянскі гісторык са спасылкай на вядомага царкоўнага дзеяча, протапрасвітара В. Баравога казаў: «Расія — цэнтр раўнавагі ў свеце». Лёс хрысціянства ў Расіі — гэта ў канчатковым выніку лёс хрысціянства ў свеце.

**— Ці ёсць спецыфічныя рысы ў святкаванні 1000-годдзя на Беларусі?**

— Ва ўсіх епархіях формы святкавання падобныя, бо для ўсёй нашай царквы існуе адзіная абраднасць. Аднак улічваюцца і нацыянальна-культурныя адметнасці. Сёння мы памінаем святых з зямлі беларускай прасіяўшых. Жыццё сваё яны прысвяцілі хрысціянскаму ідэалу. Святых ва ўсе часы было няшмат, але менавіта яны ўвасабляюць унутраную сілу, што змацоўвае народ.

Зямля беларуская была азорана хрысціянствам яшчэ да афіцыйнага хрышчэння Русі. Так што святасць, міласэрнасць, уласцівыя беларускаму народу, маюць вельмі глыбокія гістарычныя карані.

**— Пачынаючы з часоў Полацкай Русі, беларуская культура фарміравалася пад уздзеяннем дзвюх плыняў хрысціянства — праваслаўя і каталіцызму. Праз усю гісторыю Беларусі ідзе супрацьстаянне каталіцызму і праваслаўя ў ідэалогіі і палітыцы. І сёння ў сілуэце нашых гарадоў суіснуюць купалы праваслаўных храмаў і вежы касцёлаў...**

— Апошнім часам нашы адносіны з каталіцкай царквой выразна змяніліся ў лепшы бок. На ўрачыстасцях 1000-годдзя прысутнічаў кардынал Казаролі, другая асоба ў Ватыкане, кардыналы Вілібранс і Фетр з Мюнхена, госці з іншых цэнтраў каталіцызму. Сам гэты факт гаворыць пра многае. Бо з XI стагоддзя кананічныя зносіны паміж дзвюма цэрквамі былі парушаны. Часам найбольшай напружанасці на беларускай зямлі былі XVII—XIX стагоддзі. Сёння ж фарміруюцца іншыя адносіны не толькі на міжнародным узроўні, але і ўнутры краіны.

Былі прадстаўнікі каталіцкай царквы і на ўрачыстасцях у Беларусі. У не такі ўжо далёкі час усе веруючыя нашай краіны, незалежна ад веравызнання, мелі цяжкасці ў рэалізацыі свабоды сумлення. Гэта ў пэўным сэнсе паспрыяла сённяшняму збліжэнню праваслаўнай і каталіцкай цэркваў.

**— А што вы скажаце пра кантакты ў рамках Сусветнага савета цэркваў?**

— Ідэя аб'яднання ўсіх хрысціян — экуменізм, а потым і ўвогуле ўсіх рэлігій набывае сёння новы змест, бо веруючыя ва ўсім свеце моляцца па сутнасці аб адным — аб захаванні жыцця на нашай планеце, каб чалавецтва не загінула ў полымі вайны ці ў выніку экалагічнай катастрофы.

У Сусветны савет цэркваў (ССЦ) Руская Праваслаўная Царква ўваходзіць з 1961 года. Гэты савет быў створаны як аб'яднанне пратэстанцкіх цэркваў, і дагэтуль пратэстанты займаюць у ім ключавыя пазіцыі. Але ж роля праваслаўных цэркваў у савеце пастаянна павялічваецца. Каталіцкая царква ў ССЦ прадстаўлена толькі назіральнікамі.

**— У сваім інтэрв'ю газеце «Известия» (9 красавіка 1988 г.) патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Пімен, гаворачы пра ўнутраныя праблемы Рускай Праваслаўнай Царквы, адзначыў «блуканні на духоўнай глебе некаторых нашых святароў і паствы», а таксама «уніяцкае пытанне»...**

— Магчыма, Яго Святасць меў на ўвазе так званы «Незалежны хрысціянскі семінар», можа, што іншае. Але ж увогуле «блуканні» сведчаць пра тое, што жыццё працягваецца, што наша царква не застылы арганізм, што ў ёй ідзе жывая работа духу. З'яўленне ў Рускай Праваслаўнай Царкве «нефармалаў», як сказалі б мы сёння, — не надзвычайная падзея, а нармальны працэс развіцця. Апосталу Паўлу належаць словы, звернутыя да адзінаверцаў: «Сярод вас павінны быць разнадумнасці, каб выявіліся найбольш умелыя».

Калі мы гаворым пра адзінства царквы, дык маем на ўвазе адзінства, пабудаванае на барацьбе супрацьлегласцяў. Усё ў адпаведнасці з дыялектыкай.

А наконт «уніяцкага пытання» я магу сказаць наступнае. Сама ідэя аб'яднання праваслаўных і каталіцкай жыве. Але аб'яднанне немагчыма дасягнуць гвалтоўнымі сродкамі. Сродкі могуць скампраметаваць мэту. Адной з такіх гвалтоўных акцый была Брэсцкая унія 1596 года. У той жа час мы не забываем, што унія гэтая — больш як 200 год у гісторыі культуры Беларусі і Украіны.

**— Айцец Яўгеній, калі мы ўжо закранулі пытанне культуры, дык раскажыце, калі ласка, пра культурныя аспекты дзейнасці царквы.**

— Сёння агульнавядома, што царква ўкладвае грашовыя сродкі ў шэраг грамадскіх фондаў, у тым ліку і ў фонд культуры. У прынцыпе царква гатова да больш цеснага супрацоўніцтва з дзяржаўнымі ўстановамі і грамадскімі арганізацыямі. Царква, як неад'емная частка нашага грамадства, як сацыяльны інстытут, што выяўляе духоўныя інтарэсы немалой часткі насельніцтва краіны, магла б спрыяць фарміраванню і рэалізацыі доўгатэрміновых культурных праграм. Такіх, напрыклад, як праграма «Спадчына» Беларускага фонду культуры. Менавіта царква ў часы занядбання гістарычнай памяці, нігілістычнага стаўлення да культурнай спадчыны мінулых стагоддзяў захавала для народа многія каштоўнасці. Мы і сёння гатовы працаваць на ніве міратворства, міласэрнасці, асветніцтва і культуры.

Гэта наша дзейнасць, безумоўна, будзе насцярожваць тых, хто сёння прапаведвае мысленне застойных часоў. Але выступленні кіраўнікоў партыі і дзяржавы, дакументы XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі даюць нам вялікую надзею.

**— Дзякуй, айцец Яўгеній, за гутарку.**

# НОЕЎ КАЎЧЭГ

**(Працяг. Пачатак на стар. 8—9, 10—11).**

І пайшоў гуляць кісет па руках. Скручвалі уркі цыгаркі таўшчынёй з аглоблю. Смачная дармавая «смолка». Танеў, худзеў кісет. Маўчаў Корзун. Прамаўчаў і тады, калі Васёк Калыма вельмі спакойна паклаў яго ў сваю бяздонную кішэню.

— Сушы барахло, папаша, а кісет твой хай у мяне застанецца. Захочаш пакурыць — падыходзь, закурвай, пачастую. Ды ты не касароцься, падло старое! У мяне твая смолка цалейшая будзе.

Вось і паспрабуй пярэчыць. Горка. Крыўдна. Апошні тытунь забралі. А што будзеш рабіць? Каму скажаш? Э-э, ды чорт з ім, тытунём. Сушыцца трэба... хутчэй сушыцца. Распрануўся Корзун нагала, толькі адну целагрэйку на плечы накінуў. Выкручваў мокрыя нагавіцы, анучы, кальсоны. Утыкаў у адталую ля вогнішча зямлю жэрдачкі, напяліваў на іх адзежу, сушыў.

— Атас! — раптам панеслася ад брыгады да брыгады. Ягадка кенае!

Уркаганаў ад вогнішча быццам ветрам здзьмула. На дарозе, нібы выпрасаванай палазамі саней, паказалася постаць камандзіра ўзвода аховы. Карэнны сібірак, прыроджаны паляўнічы-следапыт, камандзір узвода Ягадка здабыў сабе хоць і жудасную, але громкую славу. Славуты ён быў тым, што лепей за ўсіх і хутчэй за ўсіх мог злавіць (і лавіў) любога, самага адчайнага бегляка. Не жадаючы дзяліцца ні славай, ні ўзнагародамі, Ягадка ішоў на пошукі за ўцекачамі толькі ў адзіночку і, як правіла, заўсёды лавіў. Уцячы ад Ягадкі было немагчыма. Вопытны паляўнічы-звералоў, ён выдатна разбіраўся ў слядах, у тайзе адчуваў сябе, як дома, у любую пару года, у любы час — і днём і ноччу. За яго шматгадовую службу не было ні аднаго ўдалага ўцёку. Калі Ягадка пайшоў у тайгу за беглякамі, значыць, ён іх знойдзе. Дагоніць і... заб'е. Так, так! Абавязкова заб'е! Не было выпадку, каб Ягадка прывёў бегляка жывым на калону. Ён лічыў, што лепей прыносіць «вещественные» доказы аб закончанай аперацыі. За гэтыя асаблівыя якасці яму, напаўпісьменнаму «чалдону», і прысвоілі званне малодшага лейтэнанта. Вышэй за ўсё, нават за ўласнае жыццё, цаніў Ягадка залаты пагон з зорачкай. Гэта была яго самая высокая мара, крытэрый славы і дабрабыту. Праўда, хадзілі чуткі, што «вещественные» доказы закончанай аперацыі не заўсёды адпавядалі дактыласкапічным даным, а гэта значыць, што Ягадка забіваў у тайзе часам не тых людзей, якіх шукаў, але... тайга-матухна нема маўчала, а сам Ягадка шчыра гаварыць аб гэтым не збіраўся. Ці ж мог ён адмовіцца ад прэміі за беглякоў, адмовіцца ад славы і дабрабыту?

І вось з такім чалавекам лёс сутыкнуў Корзуна ля вогнішча.

— Ты што ж гэта, галубчык, сонечную ванну прымаеш? Усе працуюць, а ты сабе курорт наладзіў?

— У яму праваліўся я, таварыш камандзір... сушуся,— нясмела паясніў Корзун.

— Таварыш?! — бровы Ягадкі ад абурэння падскочылі ўгору. — Як ты сказаў? Таварыш? Гэта я... афіцэр — і раптам табе таварыш! Ты разумееш, дрэнь арыштанцкая, каму ты сказаў «таварыш»? А-фі-цэ-ру! Разумееш, пагань сівая?.. А-фі-цэ-ру!

— Я па звычцы... грамадзянін начальнік,— намагаўся апраўдацца Корзун,— як там, на волі.

— На волі?! — яшчэ больш раз'юшыўся Ягадка. — Я пакажу табе волю!

Азвярэла зрываў Ягадка адзежу з жэрдачак і шпурляў у снег, падалей ад вогнішча.

— Апранайся, сволач!

Спалоханы Корзун пачаў таропка апранацца. Ён скакаў па снезе на адной назе басанож і ніяк не мог трапіць у калашыну мокрых ватных нагавіц, падаў, падымаўся і зноў падаў. І ў гэты час нехта з рабацяг крыкнуў:

— Дзед! Анучы гараць!

Кінуўся да вогнішча Корзун. Ды позна. Высушаныя байкавыя анучы палалі яркім агнём. Скошаны новай бядой, неяк адразу ўвесь абмяк стары, рукі павіслі. Па твары папаўзлі пякучыя слёзы крыўды. Ягадка нічога гэтага не бачыў. А калі б і ўбачыў, дык нічога б не зразумеў. З амбіцыяй і апломбам ён чытаў натацыю не столькі Корзуну колькі рабацягам, што тоўпіліся паблізу.

— Таварыш... Афіцэр яму таварыш. Які я табе таварыш! Бач ты гусь лапчаты!

І тут з Корзунам нешта здарылася. З адчаем, перапоўніўшым сэрца, ён неяк ненатуральна выпрастаўся і громка, злосна адчаканіў:

— Вінаваты! Я вам не таварыш! Я гусь!.. Я гусь! Я вам не таварыш!

— Га-га-га! — грымнулі рабацягі. — Га-га-га! Правільна, Корзун! Гусь свінні не таварыш!

Губы Ягадкі пабялелі і затрэсліся.

— Хто сказаў?.. Хто?

Маўчалі рабацягі. Шчыльней збіліся ў кучу, намагаючыся схавацца адзін за аднаго.

— Хто?! — зароў Ягадка. — Не скажаце... усіх пакладу на снег, — прыгразіў ён.

— Навошта ўсіх класці, камандзір? Людзі тут ні пры чым. Я сказаў.

З натоўпу выйшаў камлюкаваты мужчына, механік мехпарка Міхаіл Раскатаў, а па-простаму, па-лагернаму, дзядзька Міша.

— Ты-ы? — ужо неяк асабліва прашыпеў Ягадка.— Хто дазволіў табе гэткія словы казаць?

— Народ, — спакойна адказаў дзядзька Міша.— Рускі народ. І сам гаворыць, і мне дазваляе.

— Агітацыю разводзіш?! — зноў раз'юшана зароў Ягадка. — Працу зрываеш?.. Ну глядзі... я табе пакажу!

— А што ты мне пакажаш, камандзір? Арыштуеш? Дык я ўжо арыштаваны. А з лагера не выганіш, мелка плаваеш, камандзір. Вось так.

— У кандзею згнаю!

**(Заканчэнне на стар. 14).**



© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

## МУЗЫКА

# ЗАСТАЛІСЯ Ў СПАДЧЫНУ ЗАЛЫ...

### РОЗДУМ НАД ПРАБЛЕМАЙ

**«Вось у вас у Мінску канцэрты — дык гэта ж канцэрты: і Рыхтэр, і хор Палянскага, і хор Мініна, і аўтарскія вечары Шнітке, Дзянісава і шмат іншага цікавага, у нас нічога гэтага няма». (З размоў са слухачамі канцэртаў у Віцебску, Магілёве, Гомелі, Гродне).**

Што ж слухаюць у нас на перыферыі? Гэтае «што» найперш залежыць ад таго, дзе слухаюць. Маю на ўвазе залы, у якіх праходзяць канцэрты. Заначу адразу, што пра эстраду сёння гаворкі не будзе, бо эстрадная музыка гучыць у любой акустыцы, нават на стадыёнах. А вось для канцэртаў так званай сур'ёзнай музыкі залаў у рэспубліцы мала, хоць патэнцыяльна цудоўныя залы знойдзеш ў кожным раёне.

Практыка паказвае, што канцэртам класічнай музыкі павінна спадарожнічаць асаблівая атмасфера, атмасфера падзеі. А гэта магчыма толькі тады, калі ёсць спецыяльная канцэртная зала. Дзе ж на Беларусі такія залы? Апроч Мінска, бадай, у Гродне і ў Полацку. Пераважна ж канцэрты ў абласных цэнтрах адбываюцца ў залах музычных вучылішчаў і ДМШ, прызначаных найперш для вучэбных мэт.

**Вылучаецца канцэртнае жыццё ў Полацку. За некалькі сезонаў работы залы Сафійскага сабора (дзе, да таго ж, устанавілі арган) аматары музыкі пачулі больш, чым жыхары амаль усіх абласных цэнтраў за многія гады. Гаворка, вядома, не толькі пра арганныя канцэрты, а і пра канцэрты харавых і камерных калектываў. Толькі ў студзені гэтага года ў Полацку выступілі Квінтэт духавой музыкі з Грузіі, Аўстрыйскі квартэт, скрыпач Б. Гарлуцкі, вакалісты А. Сафіулін, Т. Алёшына, піяністы Д. Башкіраў, А. Любімаў, В. Паповіч, арганісты А. Фісейскі, В. Сафраніцкая... А, скажам, у Віцебску за той жа час выступілі Мінскі камерны аркестр, вакаліст Анісімаў. Я ўжо не называю тут удзельнікаў I Усесаюзнага фестывалю старадаўняй і сучаснай камернай музыкі, які адбыўся ў Полацку сёлета і якому зайздросцілі нават мінчане.**

Заўважу, што апошнім часам у Магілёве, у музеі В. Бялыніцкага-Бірулі, наладжваюцца канцэрты — такі вопыт варты падтрымкі. Абуджае добрыя надзеі і перспектыва Вілейкі: тут плануецца адкрыццё канцэртнай залы ў былым касцёле.

Увогуле праблема залаў для так званых сур'ёзных канцэртаў існуе па ўсім Саюзе. Дарэчы, параўнальна нядаўна ў газеце «Известия» было змешчана інтэрв'ю кіраўніка Маскоўскага камернага хору прафесара У. Мініна, дзе ён прапаноўваў саборы, аддадзеныя на гаспадарчыя патрэбы, рэстаўрыраваць і перадаць для выкарыстання музыкантам. Лепшых у акустычных адносінах залаў у нас будаваць пакуль не ўмеюць, ды і будаваць новае — даражэй. Праблеме канцэртных залаў вялікую ўвагу надаў на сваёй сустрэчы з тэлегледачамі ў Астанкіне выдатны савецкі дырыжор Я. Святланаў. Ён гаварыў пра тое, што доўгі час замоўчвалася: у нашым ужытку засталіся залы, пабудаваныя яшчэ да рэвалюцыі. Вось таму і ўзнікла праблема ў той жа Маскве, дзе, апроч Калоннай залы Дома Саюзаў і Вялікай залы кансерваторыі (а цяпер там, як вядома, рамонт), музыкантам выступаць няма дзе.

Невыпадкова часопіс «Музыкальная жизнь» пачаў публікаваць здымкі старых будынкаў, прынамсі, былых культавых, як прапанову прыдатных для канцэртаў памяшканняў. Думаецца, і нашым выданням — «ЛіМу», «Мастацтву Беларусі» трэба заняцца аналагічнай справай, вельмі важнай для развіцця культуры. Праектаванне і абсталяванне канцэртных залаў на базе старых будынкаў дасць работу і архітэктарам, і інжынерам, і дызайнерам, і мастакам, і музыкантам, ды і студэнцтву пад час працоўнага семестра ці старшакласнікам у вольны ад заняткаў час. Былі б слушныя ідэі і кампетэнтная іх падтрымка.

**Яшчэ адзін клопат: праблема адміністратараў. Часцей за ўсё на гэтай працы заняты людзі, вельмі далёкія ад музыкі, якія маюць на мэце арганізацыю эстрадных канцэртаў (пра гэта і цэнтральная прэса пісала). Арганізацыя выступленняў калектываў і салістаў неэстраднага амплуа для іх штосьці накшталт нагрузкі. Такія і вынікі: Мінскаму камернаму аркестру прапануецца «пайграць» у перапынку паміж аддзяленнямі танцавальнага калектыву; піяністу лаўрэату міжнароднага конкурсу выступіць — у інтэрнаце мінут 15 для маладых маці з немаўлятамі. Музыканты дасюль памятаюць кур'ёзны выпадак: народны артыст рэспублікі З. Бабій спяваў на кухні віцебскага рэстарана «Аўрора»! А колькі сыграна канцэртаў у сталовых, колькі прайшло выступленняў у непрапаленых памяшканнях, дзе публіка сядзіць у кажушках, а музыканты — у фраках! Такіх прыкладаў «арганізацыі» канцэртаў можна назваць мноства. І ўсё гэта ніяк не спрыяе масаваму далучэнню да шэдэўраў сусветнай музыкі, мала таго—дыскрэдытуе нашу прафесію.**

Вядома, і самім артыстам ёсць пра што падумаць. Нярэдка на гастролі па абласных гарадах нашы вядучыя калектывы — сімфанічны, камерны, народны аркестры, харавая капэла—вязуць так званы «шырспажыў», далёка не заўсёды выязджаюць з добрымі салістамі. І маюць рацыю слухачы перыферыйных канцэртаў, калі наракаюць на бедную афішу філарманічных вечароў. Не вырашае праблему забеспячэння меламанаў высакаякаснымі праграмамі стварэнне канцэртна-лекцыйных аддзелаў у абласцях, хоць гэтыя аддзелы і выконваюць вялікую культурна-выхаваўчую работу. Залаў з добрай акустыкай, прывабных для музыкантаў, няма. І не будзе, пакуль «маўчаць» архітэктурныя помнікі, занядбаныя або скарыстаныя для далёкіх ад мастацтва патрэб.

Зноў спашлюся на прыклад Полацка: ёсць выдатная зала ў Сафійскім саборы (а таксама зала ў Багаяўленскай царкве, дзе цяпер карцінная галерэя), ёсць зацікаўленыя ў інтэнсіўным канцэртным жыцці людзі (прынамсі, дырэктар гісторыка-архітэктурнага запаведніка Т. Рудава), і ў выніку — «загучалі», набылі новае жыццё архітэктурныя помнікі. Полацк робіцца адметным музычным цэнтрам, які ведаюць, шануюць (і наведваюць!) майстры мастацтва з усяе краіны.

Прыклад Полацка найлепшым чынам пераконвае, што шматлікія праблемы канцэртнага жыцця на перыферыі вырашаць трэба як мага больш зацікаўлена і аператыўна, ад гэтага пабагацее наша духоўная скарбонка. Пакуль у галіне музычнай адукацыі і эстэтычнага выхавання мы надта адстаём не толькі ад высокаразвітых еўрапейскіх краін, але і ад нашых прыбалтыйскіх суседзяў. А ці варта даводзіць, што толькі высокакультурныя людзі здатныя здзейсніць тое, што намеціла наша перабудова. Адны́мі эканамічнымі фактарамі чалавека не выхаваеш і не пераробіш!

**Аляксандр МІЛЬТО,**
**артыст Мінскага камернага аркестра.**

# «Музыканты старога Таліна»

У эпоху сярэднявечча ніводнае гарадское свята не абыходзілася без музыкантаў. У тыя далёкія часы яны павінны былі ўмець іграць на некалькіх інструментах, спяваць, танцаваць. Гэтую старажытную традыцыю спрабуе адрадзіць нядаўна створаны ансамбль салістаў «Музыканты старога Таліна», які выступіў у Полацку. Вядома, што прыхільнікі камернай музыкі, як правіла, людзі сярэдняга і старэйшага ўзросту. Звычайна такі ж і ўзрост выканаўцаў. А «Музыканты старога Таліна» не проста маладыя, яны — юныя.

Ансамбль не мае на мэце выкананне твораў мінулага на сапраўдных інструментах таго часу. Але ўключэнне нават асобных старадаўніх інструментаў у склад аркестра надае гучанню непаўторнае хараство і адметнасць. Дзейнасць маладых эстонскіх артыстаў мае асветніцкі характар. Яны іграюць, як правіла, малавядомыя творы. Не так ужо часта мы можам пачуць Канцэрт соль мажор для саліруючай віяланчэлі, струнных, клавесіна і гітары Л. Бакерыні, Канцэрт ля мінор для блокфлётэ, віёлы да гамба і струнных Ф. Тэлемана.

Першае ўражанне ад ігры «Музыкантаў старога Таліна» — правільнае разуменне стылістыкі твораў, якія выконваюцца, дыферэнцыраваны падыход да кожнага з іх. Іграючы музыку розных краін, выканаўцы імкнуцца вылучыць характэрныя рысы англійскага, нямецкага і італьянскага барока.

Аблічча праграмы, з якой ансамбль выступіў перад палачанамі, у многім вызначыла асоба саліста — лаўрэата конкурсу імя П. Чайкоўскага Івана Манігеці. Бездакорна элегантны, у той вечар ён быў гаспадаром канцэртнай залы Сафійскага сабора. У Сарабандзе соль мажор для віяланчэлі сола І.-С. Баха артыст паказаў валоданне насычанай, разнастайнай шматфарбнай палітрай. Дзівосная напеўнасць віяланчэлі Івана Манігеці раскрылася ў Канцэрце до мажор для віяланчэлі, струнных і баса кантынуа А. Вівальдзі. Здаецца, што выканаўца пераняў у італьянскіх спевакоў сакрэты вядзення і філіроўкі гуку.

Прыдзірлівае вуха, відаць, адзначыла тэхнічныя памылкі ў ігры маладых музыкантаў, істотную розніцу ва ўзроўні майстэрства саліста Івана Манігеці і ансамбля ў цэлым. Так, ансамбль пакуль далёкі ад дасканаласці, над многім трэба працаваць. Толькі б не страцілі галоўнага: жадання музіцыраваць жыва, па-юнацку непасрэдна і самааддана.

г. Полацк.

**Л. ГЕЛЬДЗІНА.**



На здымках фільма.

## КІНО

# Новы зварот да класікі

Новы зварот да старонак класікі зрабіў заслужаны дзеяч мастацтваў БССР лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР кінарэжысёр Вячаслаў Нікіфараў. На здымачнай пляцоўцы «Беларусьфільма» ў Смалявічах, у некалькіх павільёнах студыі, у жывапісных мясцінах Падмаскоўя вядуцца здымкі фільма паводле вядомага твора А. С. Пушкіна «Дуброўскі» (як вядома, яго ным прататыпам быў наш зямляк, беларускі памешчык).

Праца, распачатая рэжысёрам некалькі гадоў назад, паспяхова блізіцца да завяршэння. Для тэлебачання «Беларусьфільмам» робіцца чатырохсерыйны варыянт, для кінапракату прызначаны дзве серыі. Аўтары сцэнарыя — А. Нікіч і А. Грыгор'еў, аператар — Э. Садрыеў, мастак — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР В. Дзяменцеў. У ролі Уладзіміра Дуброўскага здымаецца акцёр і рэжысёр маскоўскага тэатра-студыі «Современник-II» М. Яфрэмаў. У ролях заняты вядомыя акцёры тэатра і кіно, сярод якіх М. Зудзіна, К. Лаўроў, У. Самойлаў, У. Конкін, В. Паўлаў, А. Рамашын і іншыя.

**Тэкст і фота**
**А. ДЗМІТРЫЕВА.**



Дуброўскі — М. Яфрэмаў.



Маша Траякурава — М. Зудзіна.



Траякураў — У. Самойлаў.



Рэжысёр В. Нікіфараў на здымачнай пляцоўцы.



Кадр з будучага фільма.



© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

# НОЕЎ КАЎЧЭГ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—12).

— О, гэта ты можаш, камандзір,— усміхнуўся дзядзька Міша.— І то калі начальнік дазволіць. Мяне ў карцэр пасадзіш, а сам ля лакамабіля дзяжурыць будзеш замест мяне. Больш няма каму. Ці не так?

Аж зубамі скрыгатнуў Ягадка ад злосці. Ведаў, што Раскатаў праўду кажа. Ніколі не дапусціць начальнік, каб доўга трымалі ў карцэры механіка. І трактары патрэбны, і рамонт машын патрэбен, і без святла не абысціся. Без механіка, як без рук. Усё гэта добра разумеў Ягадка, а яшчэ лепей — сам дзядзька Міша, таму і быў такі спакойны.

— Аўдзееў! — падае каманду Ягадка начальніку канвою.— Спішы абодвух! Павяду на зону ў кандзей.— А затым, звяртаючыся да дзядзькі Мішы і Корзуна, загадаў. — А ну, марш! Крок направа, крок налева лічу ўцёкамі, страляю без папярэджання.

Вёў ён іх не па дарозе, а па вузкай свежапратаптанай у снезе сцяжынцы, самым кароткім шляхам цераз пасёлак вольнанаёмных. У вялікія, надзетыя на босую нагу корды Корзуна набіваўся снег, і таму яны часта звальваліся. Пальцы на ступнях пачарнелі і здранцвелі. Корзуну здавалася, што ён ідзе не нагамі, а нейкімі чужымі драўлянымі абрубкамі.

Не спяшаючыся, па-гаспадарску зняў дзядзька Міша з сябе старое, заношанае кашнэ, разадраў яго на дзве роўныя палавінкі і падаў Корзуну.

— Закруціце ногі, Кандрат Пятровіч. Яны вам яшчэ спатрэбяцца. Адмарожваць не варта.

— Дзякуй,— ледзь чутна прашаптаў рачулены Корзун, збіраючыся сесці на сцяжынку.

— Не смей садзіцца!— зароў Ягадка.— Следуйце наперад!

— Садзіцеся, садзіцеся, Кандрат Пятровіч. Хутайце ногі.

— Страляць буду!— ускіпеў Ягадка.

— Брэшаш, гадзіна, — пагардліва агрызнуўся Раскатаў.— Тут, на віду, на людзях ты страляць не будзеш. Тэрмін за гэта атрымаеш, а тады... бывай, твае залатыя пагоны. І станеш ты ўжо не Ягадкай, а самай звычайнай ягадзіцай!

Што мог з ім зрабіць люты камузвода? Страляць—нельга: не бягуць. Біць — таксама нельга: тэрмін можна атрымаць. Заставалася толькі гірчаць ад злосці і, пырскаючы слінаю, шыпець, як гадзюка.

— Ладнаць... пачакайце! Я вам пакажу, дзяшоўкі... Я вас правучу

— Дурань ты, Ягадка. Беспрасветны дурань!— зноў грамыхнуў сваім басам дзядзька Міша.— Мы дзяшоўкі?.. Глядзі!— І ён шырокім жэстам рукі паказаў на калону.— Шэсць вышак з вертухаямі... ты сам ды твае памочнікі. Колькі вас! І ўсё дзеля таго, каб назіраць за намі. Не, мы не дзяшоўкі. Мы дорага каштуем. А вось цябе кругом-бягом з усімі вантробамі рублёў за восемсот узяць можна...

Ягадка як анямеў.

Пераабуўся Корзун, пасунуліся далей. А калі праходзілі міма кватэры маёра Багрына, Раскатаў наўмысна громка заспяваў:

**От Москвы до самых до окраин,**
**С южных гор до северных морей**
**Человек проходит, как хозяин**
**Необъятной Родины своей...**

Як таго і чакаў Раскатаў, на ганак выйшаў сам начальнік калоны маёр Багрын.

— Гэта што за канцэрт?

— Ды вось,— дакладвае Ягадка,— агітацыю разводзіць, працу зрывае, зэкаў супраць аховы падбухторвае... У кандзей вяду.

— Вось як?.. У чым справа, Раскатаў?

— Не сышліся мы з камандзірам узвода ў філасофіі. Ён дзеліць чалавецтва на дзве катэгорыі: на вольных і зняволеных. А я, зэк Раскатаў, дзялю людзей на разумных і дурняў.

Рыўком адвярнуўся ўбок маёр Багрын, закашляўся. Кашляў ён доўга, плечы хадзілі хадуном. І цяжка было зразумець, ці то пакутлівы кашаль трэс яго цела, ці то замаскіраваны кашлем смех...

Хвілін праз дваццаць за спінамі дзядзькі Мішы і Корзуна з грукатам і бразганнем жалезных завалаў зачыніліся цяжкія дзверы кандзея.




ЭСЭ

В УЛІЦЫ з дзвюма найменнямі для Давыд-Гарадка не дзіва. Афіцыйныя назвы, як і належыць, існуюць на шыльдачках, у гарадской дакументацыі і, вядома, на паштовых адпраўленнях — неафіцыйныя ж, гістарычныя, іншы раз з таемна-паэтычным гучаннем, жывуць у памяці.

Ідзеш па вуліцы Камунальнай, а сэрца падказвае, што ідзеш ты па Осэліцы, павернеш на Свярдлова і адразу ўспамінаеш, што гэта Радзічы. І ніколі не забудзеш, што вуліца Калініна — гэта яшчэ і Мэльнікі, Максіма Горкага — Лужок, Карла Маркса — Каралін, а твая родная — Антона Макаранкі — Кодак. Слова загадкавае, этымалогію сваю губляе недзе ў даўніне татарскіх паходаў.

Адразу пасля вайны такой вуліцы не было. Яна вырасла ў канцы 50-ых і займела імя славутага педагога, але ж у абіходку і па сённяшні дзень называецца Кодакам — у памяць кодацкіх гародаў, праз якія пралегла.

Іменна з Кодакам, з яго віднымі, што кляштар, як кажуць гарадчукі, дамамі і звязана маё пачатковае ўяўленне аб мінулым. І тут гаворку мне трэба павесці ад лета 1969-га...

У адну сонечную раніцу Кодак прыкметна заварушыўся. Людзі пакінулі свае дамы і выйшлі з двароў як на свята. Я ўжо не памятаю — адкуль ён з'явіўся, той шчаслівы нумар «Маладосці» з нарысам У. Караткевіча, у якім «пісалос про Городок»? Той часопіс усім хацелася патрымаць у руках, упэўніцца, што і на фотаздымках таксама Давыд-Гарадок — з такімі знаёмымі дамамі, Георгіеўскай царквой, могілкамі. Усе дзіваваліся, радаваліся і нават крыўдавалі — асабліва тыя, што не маглі праціснуцца ўсярэдзіну і на свае вочы ўсё пабачыць.

Яны, мусіць, першыя і закрычалі: «Трэба ўголос прочытаць, коб усе почулі!» Часопіс апынуўся ў маіх руках, і мне строга загадалі: «Чытай і нічого ні пропускай!»

Я прачытаў да апошняга радка тую мéсціну ў часопісе, дзе было пра Давыд-Гарадок, нават не абмінуў надпісы пад фотаздымкамі. Ніхто не зварухнуўся, слухаючы...

Часопіс у мяне выхапілі, і зноў пасыпалася гаворка, як звычайна на вуліцы— шматгалосая, бязладная.

Стаяў будні дзень, калі клопату багата і ў хаце, і ў гародзе, але вуліца не пусцела. Нехта выгукнуў: «Чуйцэ, людзі, тут напісано — хаты под знаком сонца, а ў нас і напраўду на шчытах сонцэ!»

Кодак узбуджана ўскалыхнуўся, нібы ўпершыню ўсім давялося зірнуць на франтоны сваіх дамоў. Зрэдку на якім шчыце значыўся сціплы крыжык, на большасці дамоў ярка віднелася кветка ўзыходзячага або ўзышоўшага сонца.

Ускінулася новая гамана. Пачалі гадаць — калі гэтыя знакі з'явіліся ў Гарадку? З вайны? Пасля смерці Сталіна? І тут нехта са старэйшых цвёрда прамовіў — яны былі ўжо і за польскім часам.

Так я ўпершыню пачуў гэтае таемнае «за польскім часам», якое і легла пасля пачатковым штрышком у маё спасціжэнне мінулага.

Я рыхтаваў сябе ў паэты, быў першым вершатворцам у Кодаку і пачынаў разумець, што на ўсё трэба глядзець нязвыкла. А калі так, то і знак сонца гэта не проста знак, прымацаваны на шчытах давыд-гарадоцкіх дамоў — гэта помнікі анёлу згоды, які ніколі не складзе свае крылы.

Так мне ўявілася тады, а цяпер я ўпэўнены, што спрадвек анёл згоды ахоўваў вільчыкі дахаў і святло ў вокнах, і той, хто меў талент убачыць яго ў небе, набываў шлях для пэўнай хады.

Жыхары Давыд-Гарадка ўзнеслі драўляную выяву анёла на свае дамы. Яны не толькі бачылі яго ў небе, але й чулі ў пошуме крылаў патрэбную сабе музыку жыццёвай пэўнасці.

І чым больш мною авалодвала жаданне пісаць, тым болей назапашвалася прага ўвайсці ў мінулае, як у сад, хоць бы ў тое, недалёкае мінулае, якое хавалася ў магічным выразе — «за польскім часам». І я зрабіў, магчыма, дзіўнае, але вельмі істотнае адкрыццё — будучыня, калі яна існуе, то існуе толькі ў мінулым. Інакш і быць не можа. Нездарма ж мае мудрыя суседзі і добрыя бацькі заўсёды больш успаміналі тое, што было, і менш за ўсё гаварылі аб тым, што будзе.

Успамінаць мінулае было для іх натуральнай патрэбай, і самыя складаныя пачуцці іхнія жывіліся паэзіяй былога. Землякі вучылі мяне, што і мінулым чалавек выпрабоўваецца на высакароднасць і не заўсёды вытрымлівае тое выпрабаванне.

Неяк у бляшанай скрынцы, у якой мая баба Прося хавае розныя патрэбныя і непатрэбныя паперы, я знайшоў старую дамовую кнігу. Ведаючы пра маю цікавасць да ўсяго колішняга, баба Прося аддала мне гэты дакумент. Ужо ў Мінску, раз-пораз зазіраючы ў польскі слоўнік, пачаў я расшыфроўваць зжаўцелыя старонкі ksążki meldunkowej.

Яна была выпісана ў 1922 годзе на імя майго прадзеда Нічыпорка Максіма Мікалаевіча, уладальніка дома № 48 на вуліцы Касцюшкі. Вывучаючы książku, я раптам адкрыў для сябе, што ён, Максім Мікалаевіч, славуты на ўсю акругу бондар, зусім не ведаў граматы. У графе Podpis własciciela domu дадзена ад рукі тлумачэнне: za niepiśmiennego Niczi-porko podpisał się і пастаўлены чужы подпіс. Па ўсім відаць, што распісаўся ўжэндык, які выпісваў кнігу, бо і ўсе наступныя старонкі акуратна запоўнены тым жа почыркам.

Што ж, цікава, павінен адчуць літаратар з літінстытуцкай адукацыяй, даведаўшыся, што ягоны прадзед быў непісьменны?

Пачуццё няёмкасці або, кажучы школьнай мовай, пачуццё крыўды на сацыяльную несправядлівасць? А можа, з усяго гэтага вырастае і нейкая «абразлівая» сімволіка — за непісьменнага ж беларуса распісаўся пісьменны паляк?..

Відаць, ні першае, ні другое і ні трэцяе. Я сябе проста адчуў вінаватым перад прадзедам, бо ў душы як кавалак лёду, варухнулася зайздрасць. Так, ён быў непісьменны, але ён быў майстрам, і на ягоныя бочкі і цэбры малілася кожная гаспадыня. А я вось пісьменны, у дзень спісваю па некалькі старонак, але ці майстар я?

Дзяцінства маё прайшло сярод майстроў, і сам феномен мінулага часу, я ўпэўнены, не спасцігальны без іхніх канкрэтных вобразаў, а таксама без пошуку ў сваёй душы таго, што называецца ўласным майстэрствам.

Я не вытрымаў выпрабаванне мінулым, вывучаючы старонкі колішняй дамовай кнігі. З ценем нядобрага параўнання я пазайздросціў роднаму па крыві чалавеку. Спадзяюся на ўласную вытрымку, згадваючы іншага майстра, чужога мне Міхала Небу, які таксама жыў тады — «за польскім часам» і быў адзіным у нашым мястэчку фатографам..

Не, ён быў не проста «фатаграфавальшчыкам» — прашу ўвагі... зараз выляціць «птушачка»... гатова, — ён быў паэтам у сваім рамястве і філосафам. Без фантазіі пра такога чалавека не раскажаш. А фантазія, вядома, узвышае над будзённасцю і нават самы нязвыклы матэрыял робіць блізкім. Дык няхай дапаможа мне анёл згоды — самае пэўнае ўвасабленне фантазіі.

У пошуме анёлавых крылаў чыстым золатам паблісквають сасновыя стружкі. І дасюль жывуць у тым пошуме смалістыя галасы сталяроў, чуецца наструнены шоргат лёгкіх гэблікаў. На варштатах нараджаліся знакі сонца — першыя помнікі анёлу згоды. І ці захаваўся б у памяці дзень ці хоць бы год, калі гэта пачалося, каб не мастацтва Міхала Небы? Відаць, што не. А вось на адным з фота дата захавалася. Пасля пячаткі Foto M. Niebo Dawidgródek ul. Słowackiego 17 маецца пазначаны алоўкам год—1938. А на самой фатаграфіі акурат паэтычны эцюд — на высокіх, прыхіленых да сцяны, драбінах стаіць давыдгарадчук і мацуе да шчыта прамяністага анёла.

Мусіць, шкодзіць мне трохі ідэалізацыя даўняга, бо абрысы мінулага ўяўляюцца серабрыста-воблачнымі і трохі пахіленымі долу, як сівая галава майго бацькі. Зрокава тыя абрысы прыйшлі да мяне якраз са спавядальна-пранікнёных фотаздымкаў Міхала Небы.

Пасля ягонай смерці праз нечы недагляд фотаздымкі ляжалі пад шкляным дахам майстэрні проста на непадмеценай падлозе. Ды што там ляжалі — валяліся, выкінутыя з майстравых прыстолкаў, уперамешку з тамамі рускай і польскай класікі і пагрызенай пацукамі біблiяй.

Фотаздымкаў было мноства, цэлая гара пялёсткаў з кветкі гісторыі. Яны пахавалі пад сабой сцябліну, з якой, нібы варожачы на каханне, паволі абрываў іх час. Тую кветку ўваскрасіць ужо немагчыма. Яна засохла, пакінуўшы нам здымкі-пялёсткі з выразнымі на іх адбіткамі былога.

Вось яно, тое былое, непадзельнае на значнае і нязначнае. Усё яно—мінулая музыка, якую можна бачыць. Аскетычныя, амаль скульптурныя творы маіх землякоў, графічна-строгія з запаленымі свечкамі кампазіцыі пахаванняў і вяселляў, не абцяжараныя лішнімі эмоцыямі аблічча вайскоўцаў, твары яўрэяў і цыганоў — так, усё гэта музыка, не запісаная на нотнай паперы.

Дом, у якім жыў майстар, паблісквау здалёк шкляным дахам майстэрні і блакітнай верандай. Веранда пераходзіла ў калідор, у якім было шмат філянговых дзвярэй — першыя налева і вялі ў майстэрню. Ад ранку да вечара яны хадзілі хадуном, сюды-туды скрыпалі завесамі, а, здаралася, што і з усяго размаху наляталі на вушак. З грукатам уваходзілі толькі чужыя людзі. Міхалавы сваякі ж і яго заўсёдныя кліенты ніколі не стукалі дзвярыма, ведаючы пра гаспадарова павучанне — у доме, апрача іншага, трэба шанаваць і дзверы, бо яны ўпускаюць у дом і выпускаюць з яго. Па той жа прычыне Міхалава жонка, унёсшы ў хату бярэмак дроў, не кідала іх абы-як пад грубку, як тое магла зрабіць любая іншая гаспадыня. Яна абавязкова нагіналася, нібыта кланялася будучаму цяплу, і акуратна па паленцу выкладвала дровы на кавалак бляхі, якім закрывалася падлога каля грубкі.

Рознага люду перабыло ў майстэрні ў Міхалавым доме, які выгодна знаходзіўся ў самым цэнтры мястэчка.

Заходзілі да майстра маладыя шляхцюкі, не ў меру вясёлыя і, здавалася, пад моцнай чаркай. Але пілі яны трошкі, самую каплю, а больш вылівалі сабе на грудзі, за ўлогі. Рабілася тое знарок, каб мацней пахла гарэлкай — знак таго, што ты багатыр і ў цябе ёсць грошы на выпіўку.

Нейкі дзядзька тупаў паўз вокны майстэрні, падганяючы каня вішнёвым дубчыкам. Дзядзька вёз на поле азімае жыта і кошык з пасвечанымі яблыкамі. Усім ягоным памочнікам, сынам і дочкам, будзе на полі па яблыку, на якіх яшчэ, здаецца, не высахла святая вада. Добрае жыта ўродзіць, калі перад самай сяўбой з'ясі спасаўскі яблык... А пасля дасевак, памыўшыся і прыбраўшыся, усёй сям'ёй можна зайсці і да Міхала, каб «зняцца на картачку».

Фатаграфаваў майстар і наведвальнікаў кавярні Polonia. Які-небудзь донжуаністы пан паручнік забягаў у майстэрню, яшчэ не ачухаўшыся ад нядаўніх занадта шчырых позіркаў гаспадыні кавярні. Пазіруючы, ён ужо выдумляў пяшчотны надпіс на будучым фотаздымку, які меўся таемна падарыць пані гаспадыні. Пан паручнік толькі што з'явіўся ў Давыд-Гарадку, ён, няма ніякай мовы, прыгажун, і ягоны кожны фотаздымак не звычайная pamiątka służbu wojskowej, а залаты ключык, якім ужо неаднойчы даводзілася з поспехам карыстацца...

Але пакуль фотаздымка няма, а сама пані гаспадыня знаходзіцца пад пільным вокам пана гаспадара, таму паручніку застаецца адзіны шлях — да Солтанавай хаты.

Пра Солтанаву хату, якую наймалі для сваіх заняткаў пэські, мясцовыя прастытуткі, паручнік пачуў у кавярні ад афіцэра-пагранічніка. Пагранічнік папярэдзіў, што трэба спяшацца, бо прастытутак у мястэчку мала, хапае толькі на дзесятак афіцэраў. Асабліва тое адчуваецца, калі з Нырчы прыплывае ў мястэчка катэр з маракамі. Тады марынажаў сустракае каля Солтанавай хаты чарга пагранічнікаў, якая, вядома, месца не



© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

саступіць. Сам Рыдз-Смігпы не здольны тут прадухіліць бойкі, і ў палескі пясок шчодра ўсмоктваецца кроў абаронцаў Рэчы Паспалітай. Эрасу застаецца толькі спачувальна падміргваць анёлу згоды.

Падрыхтаваны такім ладам, пан паручнік ідзе да Царкоўнай гары і падзывае выпадковага хлопчыка: «Хлопак, ходзь ту. Гдзе тутай пэські?» Малы ўподбежкі праводзіць нецярплівага паручніка да Солтанавай хаты і зарабляе за тое дваццаць грошай на цукеркі.

У занядбанай майстэрні засталося багата жаночых партрэтаў. З рыскай ледзьве ўлоўнага неспакою альбо з адкрытай, ну проста дзіцячай радасцю глядзелі жанчыны ў аб'ектыў апарата. Коратка не скажаш пра іх, бо ўсе яны — рознага веку і прыгажосці, багатыя і бедныя, славянскай і неславянскай крыві...

Майстар даволі пажыў на свеце, досыць прачытаў разумных кніг, каб ведаць, што ніводзін мужчына не здатны палюбіць у жанчыне душу. Майстар лічыў тую няздатнасць грахом і гатовы быў пакаяцца за сябе перад жонкай і за ўсіх астатніх мужчын перад сваімі наведвальніцамі, але ўсё ж не рабіў таго. Ён баяўся, што тое дзіўнае пакаянне жанчыны не зразумеюць, а не зразумеўшы, нават не хочучы таго, могуць звесці сур'ёзнае на жарт.

Каб дайсці да сябе — лепшага, сябе — дасканалага, неабходна палюбіць у жанчыне душу. Майстар верыў, што некалі так яно й будзе — кожны дойдзе да сябе лепшага. І магчыма, тое н е к а л і прыйдзе пад канец веку, бо пад канец веку, вучаць старыя людзі, здараюцца розныя дзівы. А зараз пакуль што год 1938-ы, і над майстэрняй кружыцца, глядзіцца ў яе шкляны дах нястомны анёл згоды.

Майстра цікавіла жанчына, якую ніхто не кахаў і якая за ўсё сваё жыццё не атрымала ніводнага любоўнага пісьма. Майстар разважаў, што менш за ўсё такая жанчына будзе ненавідзець жыццё і тым больш мужчын. Якраз наадварот. У нейкі момант яна памяркоўна ўспрыме сваю непазбыўную самоту як выключнае становішча і зразумее, што самае вялікае шчасце ў жыцці — бачыць над сабой чыстыя воблакі.

Выключнае становішча, адчутае ў сабе, прыводзіць да ўнутранай гармоніі, што адпавядае Бібліі. А выключнае становішча, створанае вакол сябе, — гэта ўжо шлях да бяды, і ён больш адпаведны літаратуры.

І Талстой у «Ганне Карэнінай», і Блок, *асабліва ў вершы «На чыгунцы»,* *былі* псіхалагічна прыгнечаны трагічнасцю таго становішча, якое стварылі іхнія гераіні вакол сябе...

Майстар быў упэўнены, што жанчына, якую ніхто не кахаў і якая за ўсё сваё жыццё не атрымала ніводнага любоўнага пісьма, менш за ўсё магла стаць *гераіняй твораў Талстога і Блока. Яна* сама была творцай і праз сваю пакутную выключнасць магла б стаць першай евангелісткай.

Майстар марыў пра яе партрэт. Ён шукаў тую жанчыну ў кожнай беларусцы, у кожнай яўрэйцы і польцы. У любой капліцы бачылася яе постаць, і нават на пяці злотых, выпадкова знойдзеных у вулічным пыле, яснеў яе тонкі профіль...

Пра Міхала Небу і пра давераснёўскую Заходнюю Беларусь я патроху распытваў у старых людзей. Яны ахвотна расказвалі «як тоды було» і «шчо тоды робілос», і як Міхал усё гэта фатаграфаваў; як ён вандраваў са сваім апаратам па ўсёй давыд-гарадоцкай акрузе, і як нічога не мінала ягонай увагі — кірмашы, крамы, цэрквы, салдацкія кашары, школы, гарынскае разводдзе, пахаванні і нават пажары. Я слухаў з удзячнасцю гэтыя расказы, уяўляючы паэтычную постаць фоталетапісца, мястэчкоўца-працаўніка, і разам з тым баяўся той катэгарычнай прадузятасці, на якую, на жаль, багатая памяць старых людзей. Кожны з маіх суразмоўнікаў лічыў, што толькі ён ведае ўсё пра той час, і як ён расказвае, так трэба й пісаць.

І вось пасля кожнай такой бяседы я ўсё больш і больш пераконваўся, што, акрамя жывых гутарак, неабходна вывучаць дакументы, няхай сабе і самыя нязначныя, як згаданая ўжо książka meldunkuwa. Некалькі такіх «нязначных» дакументаў паказаў мне ў сваім калгасным музеі Уладзімір Якаўлевіч Куст (Старшыня калгаса «17 верасня» Столінскага раёна).

Я радаваўся, калі да мяне траплялі ацалелыя колішнія паперы, нават выпадковыя шматкі з фрагментамі запісаў. На адным з іх, што даволі цікава, komisja egzaminacyjna mistrzowska паведамляла вяльможнаму пану Міхалу Небу, калі і дзе адбудзецца экзамен па спецыяльнасці фатаграфічнай.

Буйны звон чуўся ў хаце і рассыпаўся па доле, калі з дзіцячых рук нечакана выпадала торба з цяжкімі злотымі. Віхурылася мноства профіляў Пілсудскага, з якіх паволі выкладвалася на падлозе мазаіка даваеннай Польшчы.

Каб была патрэба ствараць мазаічныя арнаменты з колішняй паперы, то пад рукой мелася даволі гмінных і павятовых паведамленняў, квітоў з чырвонай, круглай пячаткай пажарнай стражы і ўсялякіх купчых умоў.

І па сённяшні дзень іх могуць паказаць вам у нашым краі. Яны найбольш захаваліся, бо іх найбольш пільнавалі ад агню і чужога вока. Паперы ўсё ж тычыліся грошай, заплачаных або заробленых, таму і ашчаджаліся як грошы.

У мове маёй маці паблісквае залаты пясок паланізмаў. Пра што яна ні гаворыць, у кожным выразе чуюцца ўсе гэтыя «опініі», «скуткі», «тэчкі», «турэпкі», «плецакі» і «вуцечкі».

Мала сказаць, што гэта незвычайная мова, дыялектны кветнік, вечары і ранкі майго дзяцінства. Гэта тая музыка, паслухаўшы якую, адчуваеш сябе творцам, богам, калі рукам патрэбна гліна, а розуму яснасць.

Два гады я не чуў гэтую мову, калі служыў у войску. Вярнуўшыся, я да ўсяго быў гатовы — да слёз, да неверагодных пытанняў, нават да неразумення. Але я не падрыхтаваўся да самага простага — спакойна, без узрушэння, якое ў гэтым выпадку вельмі блізкае да экзальтацыі, пачуць першыя словы, нават першыя гукі матчынай гаворкі. Яны мяне ашаламілі, ператварылі ў тое шчаслівае дзіця, якое само дайшло да разумення, што сонца не памірае, а толькі заходзіць. Мусіць, тое ж сталася і з Тувімам, калі ў Бразіліі ён нечакана пасля доўгіх гадоў эміграцыі пачуў польскую мову на адной з вулак Рыо.

Міхал Неба любіў фатаграфаваць вуліцу Касцюшкі, галоўную вуліцу мястэчка, на якой стаяў дамок майго прадзеда. На фотаздымках засталіся шэрыя, непаголеныя твары брукароў, што ў 30-ыя гады замасцілі вуліцу шасцікантовымі плітамі. І па тым і па сённяшнім часе «польскі брук», як называюць яго ў нас — цудоўны ўзор дарожнага будаўніцтва. У ягоным трывалым існаванні маецца адкрыты папрок нашаму бруку, асабліва вясковым дарогам і вуліцам.

Зрэшты, не варта ганіць сённяшніх брукароў, не яны тут вінаваты, а сістэма аплаты іхняе працы. Ім не плацяць за якасную ўкладку, а толькі за колькасць пагонных метраў. А колішнім брукарам плацілі за якасць, таму й не адным толькі колам утульна на «польскім бруку», утульна нават босай дзіцячай ножцы.

Пліта да пліты падганялася і вымошчвалася з сапраўднай ювелірнай дакладнасцю. Стваралася не дарога, а струна поўная мелодыі бесперашкоднай хуткасці, у якой шчасліва ўтойваецца найбольшая бяспека руху. Я так мяркую, што гэта адзіны шлях, трапіўшы на які, легкадумны Фаэтон імгненна навучыўся б кіраваць вогненнай калясніцай.

«Польскі брук» назаўсёды застанецца на фотаздымках Міхала Небы, але ці застанецца ён наяве? Некалькі ягоных кіламетраў беззваротна зніклі. У канцы 70-ых было задумана пашырыць цэнтральную вуліцу. Дзеля гэтага выламалі гістарычныя пліты, а частку іх проста засыпалі пяском. Вуліцу зрабілі шырэйшай, напнулі шэрай паласой асфальту, а з вывернутых плітаў абапал асфальту скляпалі сяк-так тратуар. І, мусіць, нічога такога страшнага ў тым няма, калі не лічыць страшным, што ізноў патрэба надзённага ўзвысілася над хараством.

У той час, калі вуліцу Касцюшкі вымошчвалі плітамі, на суседняй вуліцы з чырвонай цэглы будавалі касцёл. Яго асвяцілі ў 1936 годзе. Але калі ў ім адбылася апошняя імша — цяпер ужо цяжка сказаць, таксама як і тое — калі ў ім заіграў першы гармонік. У вядомыя часы касцёлу, што называецца, надалі «свецкасці» — скінулі крыж і разбурылі вежу-званіцу. Ён стаў клубам, але і па сёння людзі называюць яго касцёлам. Не праз упартасць сваю, а толькі пакланяючыся трывалай звычцы. І таму фраза «пайсці ў клуб на танцы» вымаўляецца ў Давыд-Гарадку даволі дзіўна — «пайсці ў касцёл на танцы».

Дык вось касцёл, да якога цяпер прыбудоўваюць танцпляцоўку, падобны на самотную і, асабліва ў сонечныя дні, сумную істоту. Толькі пад дажджом ён весялее. Цэгла робіцца яснейшай, выцягнутыя вокны набываюць вясёлкавы рух, і сама будыніна губляе цяжар адзіноцтва. Сцены ўвачавідкі вырастаюць і становяцца такімі ж невымяральнымі, як і струмені дажджу.

Мяне захапляе такое пераўтварэнне, і таму я люблю дождж. Любы — і той, які ледзьве крапае, і той, шалёны, што як з вядра, і ранішні, і вечаровы, вясновы і восеньскі. У любую пару першыя кроплі дажджу, як першыя радкі біблії, апавядаюць пра неба і зямлю і ажыўляюць адзіны ў Давыд-Гарадку касцёл.

6 мая 1936 года дажджу не было, хоць на яго выглядалі ўжо з самае раніцы. Абыходзячы Царкоўную гару з двух бакоў, да прыстані збіраліся людзі. Яны неслі свае цяжкія клункі, а ў душы яшчэ больш цяжэйшы настрой. Людзі развітваліся з радзімай, маліліся на драўляныя сцены Уваскрасенскай царквы — яны ехалі на заработкі ў Канаду. Іх ужо чакаў Piast, рэйсавы параходзік, што курсіраваў у цотныя дні паміж Давыд-Гарадком і Пінскам. Развітацца са сваімі прыхаджанамі прыехаў святар Бяляеў, які адначасова з'яўляўся і віцэ-бурмістрам. Неўзабаве ўсе заўважылі і Міхала Небу, з ягоным лёгкім апаратам на трох акаваных распорках. Са школкі прывялі дзяцей, прыбраных, як на свята. Кожны школьнік трымаў развітальную галінку шпарагусу.

А дажджу ўсё не было. А людзі ж чакалі яго, бо на вялікую дарогу патрэбен дождж.

Бяляеў збіраўся сказаць развітальнае слова, як раптова загуў моцны вецер, і ў тую ж хвіліну загарэўся храм на Царкоўнай гары. З купала выбеглі палосы агню, узвіліся абпаленыя вараняты. Іхнія кублы, густа абсыпаныя іскрамі, вывальваліся з дымнага купала. Вецер панёс іх на той бок Гарыні, на сухія саламяныя стрэхі. Прыстань застагнала. Цяпер ужо гарэла на абодвух берагах ракі.

Пажарная стража запазнілася, царкву маглі ўратаваць толькі вайскоўцы. Яны ўжо спяшаліся з кашараў, насцёбваючы коней — імчалі да Царкоўнай гары лёгкую палявую гармату. Людзі, што беглі да свайго храма хто з чым — з баграмі, драбінамі, вёдрамі,— спыніліся, каб не замінаць жаўнерам. «Будуць збіваць купал!» — выдыхнуў натоўп... Але подбегам рушыў да артылерыстаў страшны сваім пачарнелым тварам святар Бяляеў і забараніў страляць. Ён убачыў у гэтым пажары знак божы — і ягоная царква згарэла. З абрывістага схілу замчышча яна абрынулася на гарынскі бераг, галавешкі даляцелі да прыстані да нізкіх бартоў апусцелага Piasta. У гэты дзень параход не дачакаўся пасажыраў, а Давыд-Гарадок дажджу.

Жаўнеры, заварочваючы коней, лаялі ў душы віцэ-бурмістра з яго вар'яцкім загадам, а ён, гледзячы на пажар, ужо не валодаў мовай, уражаны ўласнай здагадкай — гэта ж царква ахвяравала сабой, каб не пусціць прыхаджан на чужыну.

У агульным гвалце не згубіў спакою толькі адзін чалавек — Міхал Неба. Майстар фатаграфаваў Уваскрасенскую царкву — *яе апошнія імгненні, яе сыход у* небыццё.

Кожны храм, нават самай нязначнай забудовы, займае мінімум прасторы. Калі храм знешне груваcткі — гэта ўжо не храм, а сцены для жылля. Толькі ўзнесенасць, толькі адухоўленая вертыкаль ратуюць прастору ад наступу глухой матэрыі.

І кожны партрэт, выкананы Міхалам Небам, сімвалізуе тую ж самую думку — чалавек павінен займаць мінімум прасторы. У партрэтах гэта дасягаецца перш за ўсё праз вытанчанасць ліній твару.

У пэўныя моманты майстар мусіў рабіць *свядомы падман. Ён знарокава* аскетызаваў паўнаватыя твары і такім чынам падначальваў плоскую гарызанталь вертыкалі. А кліентам не заўсёды тое падабалася. Яны не плацілі і пакідалі партрэты ў Небавай майстэрні. Паўната і мажнасць чалавека, лічылі яны, гэта й ёсць прыгажосць, і шчыра пасмяяліся б *з кожнага, хто развёў бы з імі гаворку* пра «мінімум прасторы».

Мае землякі прымалі ў Міхале Небу толькі чыстага фатографа і ніякага мастака бачыць не хацелі. Майстар не крыўдаваў на тое. Пакінутыя партрэты ён акуратна збіраў і захоўваў у розных сваіх прыстолках і шуфлядах.

*У нейкім без вокладак польскім часо*пісе за 1930 год яму пашчасціла сярод розных здымкаў, падабраных да 50-годдзя Блока, убачыць апошні партрэт паэта, зроблены Напельбаўмам. Гэта быў магічны партрэт, на якім ужо ляжаў цень ад харонавага вясла. Вочы схімніка, што вытрымаў вялікі пост, глядзелі на давыд-гарадоцкага майстра.

Вядома, Міхал таго не ведаў, толькі мог здагадвацца, што Блок верыў у прамую залежнасць гармоніі ад выразнасці твару самога творцы. Выказваючыся пра нямецкіх рамантыкаў (Ціка, Навaліса, Гофмана), Блок заўважаў: «У іх невыразныя твары. З такімі тварамі немагчыма здабыць велічы...».

Міхал Неба ўспрымаў выразнасць, як мінімум, як кветку, на якой павінна быць толькі пяць, а не шэсць пялёсткаў.

Ён меў рацыю. Сапраўды, выразнасць — гэта арганізаванае хараство, якое заўсёды было цэнтрам прасторы. І фатаграфуючы давыд-гарадчука, што пакідаў на шчыце сваёй хаты памятку пра анёла згоды, Міхал Неба фатаграфаваў цэнтр прасторы.

## З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

**Ніна РАДЗІВОНЧЫК**

### *Маналог-успамін*

Ноч, не муч,
Не спакушай цішынёй
і не гушкай.
Дваццаць першы...
Зноў контра белай змяёй! —
Рэвальвер пад падушкай.

Нібыта мір.
Стралялі цяпер дыпламаты,
Папраўляючы акуляраў дужкі.
Мецілі рэвалюцыі ў спіну.
Спакою не вер.
Рэвальвер пад падушкай.

Сорак першы ваенны —
І сорак пяты.
На скрыжалях гісторыі нервы напяты.
Голад і смерць чорнай птушкай.
Рэвальвер пад падушкай.

Слаўныя мы вялікаю мэтай —
Волі сцяг узнялі над планетай.
У міры, нашчадкі, вам жыць,
Навекі каб змоўклі пушкі!
А мы ўсё трывожна спім —
здаецца, ляжыць
Рэвальвер пад падушкай.

**Анатоль ПЕНЯЗЬ**

### *Нясвіжская дарога*

**БАЛАДА**

Калі дарогай едуць той,
На дзіва паглядзяць,
Як дуб з хваінай залатой,
Абняўшыся, стаяць.

Унуку баяў дзед Сымон:
«Даўно гэта было...
Ішоў з вайной Напалеон
Праз нашае сяло.

А ў вёсцы дзеўчына жыла,
Святлей за той крышталь.
Надзіва стройная была,
Кахаў яе каваль.

Але пачуў ліхі кароль
Пра тую прыгажосць,
І пацямнеў ён, нібы смоль,
Апанавала злосць.

Ён закрычаў: усё маё
Павінна толькі быць,
А калі не — то нічыё,
Схапіць, стаптаць, забіць!

І іх схапілі ў той жа міг,
Прывезлі к каралю,
А пасля здзекаў іх, жывых,
Зарылю у зямлю.

Ды ўскалыхнуўся ўвесь народ
Узняўся ўшыр і ўдаль
І зброю ўзяў, што столькі год
Для іх каваў каваль.

Мінае час, гады ляцяць,
І вось на месцы тым
Дуб з хвояй стройнаю стаяць,
Як помнік тым двaім».

**Людміла ПЯТРУЛЬ**

### *Думала...*

Думала — пакуль маленькі,
ад любові мацярынскай млею.
Думала — падымецца мой клёнік,
стану зноў разважнай, задумёнай.
Людцы, ён мяне перарастае —
сэрцайка любоў не адпускае.

**Віктар ЛУЖКОЎСКІ**

### *Цяжар*

Нібы па сэрцу лупіць медзь,
Слязу балюча цісне.
Не хмарка ў небе —
гэта смерць,
Як хіжы ястраб, вісне.
Суцішаная гамана,
І шлях аглух ад гулу.
Цяжкая доўгая труна
Маё плячо
Угнула.
Як не шкадуем вёсен дар
І радасць кожнай стрэчы!
А потым
гэтакі цяжар
Кладзём сабе на плечы.

**ПАПРАЎКА**

**У артыкуле «Балючы роздум», змешчаным 17 чэрвеня, па віне аўтара дапушчана памылка. На стар. 7 (абзац «Перш за ўсё...» у чацвёртай калонцы) трэба чытаць: «...галоўны рэдактар шасцітомнага выдання «Гісторыі беларускага мастацтва»...».**



© PDF: Kamunikat.org 2023
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

# У БЛІЖЭЙШЫХ НУМАРАХ «ЛіМ» ДРУКУЕ:

**ДА 70-ГОДДЗЯ БССР І КПБ**

**Артыкул У. Калесніка «Толькі праўда» ці толькі догма?»**

**Матэрыялы «круглага стала» гісторыкаў «Вырашэнне нацыянальнага пытання ў Беларусі»**

**Успаміны пра бацьку дачкі М. М. Галадзеда — «Праўду адстаяць здолею...»**

**НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ**

**Нарысы М. Даніленкі і В. Ткачова**

**«Кітайскія нататкі» А. Вярцінскага**

**ПРОЗА, ПАЭЗІЯ**

**Апавяданні В. Карамазава, Т. Бондар, Я. Янішчыц, А. Асташонка, І. Клімянкова**

**Вершы А. Лойкі, А. Звонака, В. Жуковіча, М. Дуксы**

**ТЭАТР, МУЗЫКА, КІНО**

**«Тэатральная адукацыя: задачы і праблемы» — выступленне рэктара БДТМІ А. Сабалеўскага**

**Творчыя партрэты кампазітараў А. Багатырова і І. Лучанка**

**Палемічныя нататкі Н. Фральцовай пра беларускую кінадакументалістыку**

**ПОЗІРК У МІНУЛАЕ**

**«Загадка смерці Янкі Купалы» — даследаванне Б. Сачанкі**

**«Помнік дойлідства, сведка гісторыі» — артыкул З. Пазняка**

**Успаміны тэатральнага мастака Я. Чамадурава**

## ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

— Дапамажыце набыць той ці іншы нумар «ЛіМа»! — нярэдка звяртаюцца да нас, хоць адгукацца на такія просьбы рэдакцыя пры ўсім жаданні не ўстане.

**А таму — выпісвайце «Літаратуру і мастацтва»!**

Старонкі газеты адкрыты для вострых дыскусій па актуальных праблемах культуры, гісторыі і сучаснасці.

Падпіска прымаецца ва ўсіх установах «Саюздруку» і аддзяленнях сувязі. Падпісацца можна на любы тэрмін, пачынаючы з любога месяца, трэба толькі паклапаціцца пра гэта загадзя.

Найлепш ужо цяпер аформіць падпіску на наступны, 1989 год, якая каштуе 5 рублёў 20 капеек.


## РЭКЛАМА РЭКЛАМА

## ПАШЫТА Ў ГРОДНЕ ПРЫГОЖА І МОДНА



У гэтым лёгка пераканаецца кожная жанчына, прымераўшы абноўку, выробленую на Гродзенскай швейнай фабрыцы.

Асабліва багаты выбар сукенак — выхадных і дзелавых, класічных і вострамодных, з шаўковых, баваўняных, шарсцяных і смесавых тканін.

Прапаноўваюцца цікавыя мадэлі маладзёжнага камплектнага адзення, выпушчаныя па ліцэнзіі італьянскай фірмы «Мардзота».

Спадзяёмся, вы ацэніце самі:

пашыта ў Гродне — пашыта з фантазіяй, майстэрствам і любоўю!

**По заказе Беларускага Цэнтра моды.**

## «А МУЗЫКА ГУЧЫЦЬ...»,

**як у канцэртнай зале, калі слухаць яе на магнітафоне «Саюз-110 стэрэа».**



Трохматорны стужкапрацяжны механізм з электронным кіраваннем і аўтаматычным назіраннем за нацяжкай стужкі — вось што забяспечвае выключную чысціню гучання і даўгавечнасць плёнкі.

З дапамогай «Саюза-110 стэрэа» вы можаце ствараць трукавыя запісы, камбінаваныя музычныя кампазіцыі.

Кошт — 710 руб.

**ВА «Бранскі электрамеханічны завод».**



## ПА ШАЎКОВЫМ ПОЛІ РАССЫПАЛІСЯ КРАСКІ

**Быццам усе фарбы лета ўвабралі ў сябе лёгкія тканіны Магілёўскага вытворчага аб'яднання шаўковых тканін.**



**І кветкі, і палосы, і клетка — папулярныя расфарбоўкі гэтага года. Сярод іх — і маляўнічы букет з новых тканін: «Дзіяна», «Варна», «Ілга», «Лола»... — сукеначна-касцюмныя; «Южа» — для міжсезоннага адзення.**

**З магілёўскага шоўку вы пашыеце самую прыгожую сукенку, спадніцу, блузку.**

**Па заказе Беларускага Цэнтра моды.**

**Беларускае рэкламнае агенцтва па гандлёвай рэкламе**



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 01318

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 32-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.



Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.



Галоўны рэдактар Анатоль ВЯРЦІНСКІ.

Рэдакцыйная калегія:

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Уладзімір ГІЛЕП, Мікола ГІЛЬ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГНІЛАМЕДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Рычард СМОЛЬСКІ, Віктар ТУРАЎ.

Адказны сакратар Андрэй ГАНЧАРОЎ.


© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023